**Кто организовал провокацию против участников пикета в Гродно и… Лукашенко?**
**Читайте на 3-й стр.**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо…*
**Якуб КОЛАС**

**№ 44 (4502)**

2 чэрвеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

**ВЫБАРЫ-2020**


Мінск, 31 мая.


Гомель, 31 мая.


Ліда, 31 мая.



Гродна, 31 мая.

## Вялізныя чэргі ўзнікаюць у гарадах, каб паставіць подпіс у падтрымку таго ці іншага прэтэндэнта на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**ХОД КОНЕМ**

***Претендент на президентский пост Виктор Бабарико обратился ко всем потенциальным кандидатам, включившимся в избирательную гонку, с предложением публично выразить свою солидарность и присоединиться к озвученным принципам организации честной и свободной кампании. Свое послание он адресует и всем гражданам Республики Беларусь, а в особенности – членам избирательных комиссий, сотрудникам правоохранительных органов, государственным служащим.***

***В обращении В.Бабарико говорится: «Мы призываем людей, которых принуждают ставить подписи, заявлять о правонарушениях открыто. Если вас уволят или лишат премии, мы будем организовывать юридическую, финансовую и другую поддержку.***

***Нами будет организована прямая телефонная линия, предложены формы заявлений о нарушениях, организована помощь в подаче заявлений. Если кто-то из вас подвергнется преследованию, мы свяжем вас с теми, кто может помочь. Призываем помогать друг другу и не бояться действовать законно».***

***Вот как выглядит документ, представленный широкой общественности Виктором Бабарико, который он, обращаясь к народу Беларуси, просит подписать всех, кто разделяет такую позицию.***

## Декларация о честных выборах

Я – гражданин Республики Беларусь. И я действительно имею право избирать и быть избранным. И по Конституции, и по совести. Утверждать, что я за кого-то проголосую или не проголосую, имею право только я. Я не хочу, чтобы в отношении моего возможного выбора делались заявления, дискриминирующие людей по гендерному, национальному или профессиональному признаку.

Я хочу и имею право на честные выборы, свободные от непорядочного и провокационного поведения. Я могу и должен сделать всё, чтобы обеспечить свое право на выбор. Я не хочу, чтобы меня принуждали голосовать или ставить за кого-то подпись. Не хочу слышать оскорблений или угроз в сторону претендентов на должность Президента и не хочу видеть реализацию этих угроз, особенно с помощью правоохранительных органов. Я не хочу слышать голословных обвинений претендентов в преступлениях или нарушениях: если это правда, я хочу, чтобы все известные факты о правонарушениях немедленно передавались в правоохранительные органы для возбуждения уголовных дел или отказа в регистрации кандидата в президенты.

Я знаю, что мой долг перед обществом – сообщать о нарушениях прав на честный выбор, понимаю свою ответственность и не допущу нечестных выборов и незаконного поведения ни в отношении себя, ни в отношении своих друзей, родных и знакомых.

Я знаю, что долг общества и мой личный долг – поддержать каждого порядочного гражданина, который сказал правду и столкнулся с преследованием. Каждый имеет право на безопасность, и не должен беспокоиться за свою жизнь или жизнь своих близких при реализации избирательных прав.

### Что лично я могу и должен сделать?

**Во-первых, сообщить, если мое начальство просило меня в рабочее время оставить за кого-то подпись:**

– сообщить о любом факте принуждения (угроза увольнением, лишением премии, плохой оценкой и т.п.) с целью повлиять на мои избирательные права;

– сообщить о любом факте подкупа (предложение премии, повышения, места в общежитии и т.п.) с целью повлиять на мои избирательные права;

– сообщать о случаях искажения государственной статистики, сокрытия от общества правдивых данных о ситуациях, угрожающих безопасности, в том числе о санитарной ситуации.

**Во-вторых, помочь своими действиями и временем:**

– поддержать подписью по моему выбору всех лиц, выдвигаемых в кандидаты в Президенты;

– выступить волонтером, чтобы своими знаниями и опытом помочь тем кандидатам, которым я хочу помочь;

– согласиться на выдвижение или поддержать выдвижение в члены участковых районных избирательных комиссий самых уважаемых членов общества;

– участвовать в собраниях избирателей, высказывать свое мнение;

– согласиться быть наблюдателем и убедиться в том, что выборы честные и законные

**В-третьих, помочь своими ресурсами:**

– поддержать тех, кто подвергнется незаконному и несправедливому преследованию или лишениям;

– поддержать тех граждан, которые пожертвуют своим временем и ресурсами для реализации моего права на честный выбор.

**СКАЗАНО!**

## Александр ЛУКАШЕНКО: «Майданов в Беларуси не будет!»

Так заявил А.Лукашенко вчера, 1 июня, во время встречи с председателем Комитета государственной безопасности Валерием Вакульчиком.

«Государственная безопасность – основа основ. И Комитету государственной безопасности в этом плане принадлежит вместе с президентом ведущая роль по защите независимости и суверенитета нашего государства. Мы абсолютно знаем цели, которые преследуют тут отдельные ветродуи. Эти цели нам ясны: устроить нам майданчик в преддверии президентских выборов или в день президентских выборов. Так они планировали. Хочу на этой встрече вас предупредить и всех, кто нас услышит, всех этих «майданутых» хочу предупредить, что майданов в Беларуси не будет», – отметил он.

Лукашенко сказал: «Мы никому не будем закрывать рот. Пожалуйста: определены места в Минске и во всех городах точки, где можно вести дискуссию. Наше дело – контроль, чтобы вы не вышли за рамки. Комитет госбезопасности вместе с милицией ни в коем случае не должны допустить нарушения закона».

Он подчеркнул, что в стране должен быть порядок: «Мы не должны допустить, чтобы разного рода шайки и банды уголовников бродили по стране с засученным рукавами. Люди, не дай Бог, подумают, что гестапо вернулось, война началась. Вот этого мы допустить не должны. И я этого не допущу. Я уже военным говорил: один буду против них сражаться, если надо. Хотя у нас хватает людей в погонах, которые способны защитить свою страну. Они понимают, что в этой стране жить их детям. Нашим детям, вашим, не только нам самим еще. Мы же умирать не собираемся».

Было также произнесено: «Некоторые наши хотят за копейку продать все то, что тут было создано не только президентом Лукашенко, не только властью, народом было создано. Поэтому этого допустить нельзя. Еще раз подчеркиваю, «майданутым» это говорю, что мы никогда не допустим дестабилизации обстановки в нашей стране».

**ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА**

## Дзірк ШУБЕЛЬ, Амбасадар Еўрапейскага Саюза ў Рэспубліцы Беларусь: «Беларусь важная як частка еўрапейскай спадчыны і частка нашай шырокай еўрапейскай супольнасці нацый»

*Адбылася важная падзея: паспяхова закончыліся шматгадовыя перамовы аб зніжэнні кошту шэнгенскіх віз для грамадзян Беларусі. З гэтай нагоды Амбасадар Еўрапейскага Саюза спадар **Дзірк Шубель** пагадзіўся адказаць на пытанні аглядальніка «Народнай Волі» **Аляксандра Фядуты**.*



**– Беларусаў можна падзяліць на дзве групы. Для адных Еўропа – гэта магчымасць вандраваць, атрымліваць адукацыю, весці бізнес. Для гэтых людзей звычайна не было праблемай атрымаць візу і па старым кошце. Але ж некалькі дзён таму Еўропа зрабіла відавочны крок насустрач меней паспяховым грамадзянам нашай краіны, знізіўшы кошт віз. Ці азначае гэта, што спросціцца таксама, напрыклад, працэс пошуку працы?**

– Абмен паведамленнямі завяршыўся – цяпер ужо дакладна пагадненні аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі ўвойдуць у сілу 2 ліпеня 2020 года. З гэтага часу вандроўкі ў большасць краін ЕС зробяцца прасцейшымі і таннейшымі для грамадзян Беларусі. Многім катэгорыям заяўнікаў наогул не давядзецца плаціць візавыя зборы. Некаторыя катэгорыі падарожнікаў таксама змогуць атрымліваць шматразовыя візы з больш працяглым тэрмінам дзеяння. Пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму тычыцца выдачы кароткатэрміновых віз, гэта значыць для меркаваных тэрмінаў знаходжання не больш за 90 дзён за любы 180-дзённы перыяд, у той час як выдача доўгатэрміновых віз, у тым ліку працоўных, па-ранейшаму рэгулюецца нацыянальным заканадаўствам кожнай краіны ЕС.

**– Наколькі наогул Еўрапейскаму Саюзу цікава Беларусь? Шмат гадоў улада казала нам: «Беларусаў у Еўропе ніхто не чакае». Дык чакаюць нас ці не чакаюць?**

– Для ЕС Беларусь важная як непасрэдны сусед, як частка еўрапейскай спадчыны і частка нашай шырокай еўрапейскай супольнасці нацый. У інтарэсах Еўрапейскага Саюза мець у суседзях квітнеючыя і ўстойлівыя дэмакратыі, і мы будзем працягваць працаваць з усімі беларусамі, якія падзяляюць гэтую мэту.

**– Ці ёсць шанец, што Беларусь атрымае прапанову падпісаць хаця б Дамову аб асацыяцыі з Еўрапейскім Саюзам? Нагадаю, што Украіне такая прапанова паступіла падчас прэзідэнцкай кадэнцыі Віктара Януковіча, які таксама не лічыўся ўзорам дэмакратычнага кіраўніка.**

– Еўрапейскі Саюз пастаянна пацвярджае адкрытасць да далейшага развіцця адносін ЕС і Беларусі і да далейшага ўмацавання палітычных адносін і галіновага супрацоўніцтва. У той жа час у адпаведнасці з Высновамі Савета па замежных справах ЕС, прынятымі ў лютым 2016 года, істотныя крокі ў галіне дэмакратыі і правоў чалавека з'яўляюцца ключавым фактарам пры фарміраванні будучай палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі. Такім чынам, пытанне пра заключэнне юрыдычна абавязваючага пагаднення паміж ЕС і Беларуссю будзе вырашацца, калі гэта дазволяць зрабіць палітычныя ўмовы. У цяперашні час мы вядзём перамовы аб Прыярытэтах партнёрства паміж ЕС і Беларуссю ў якасці кроку да заключэння пагаднення, якое юрыдычна абавязвала б.

**– Еўрапейскія наднацыянальныя структуры ўвесь час падвяргаюцца папрокам з боку нацыянальных урадаў, нібыта яны недастаткова ўлічваюць пазіцыі асобных дзяржаў. У выпадку з Вялікабрытаніяй гэта нават прывяло да «брэкзіту». Але ж мы ведаем таксама пра асаблівае становішча Венгрыі, Польшчы, Грэцыі, Італіі. Ці існуе насамрэч пагроза развалу Еўрасаюза?**

– Не, не існуе. Наш Саюз заўсёды быў і застанецца жывым праектам. Ён кожны год расце, адаптуецца да новых рэалій і стварае іх, прымае новыя выклікі. Наш фундамент – салідарнасць, і яна набыла новае значэнне і прызначэнне ў гэтым годзе ў кантэксце таго, што краіны і ў ЕС, і па ўсім свеце змагаюцца з пандэміяй COVID-19. Усе нашы 27 краін праявілі салідарнасць адна з адной і з усімі міжнароднымі партнёрамі, якія маюць патрэбу ў дапамозе, і яны працягваюць каардынаваць стратэгіі выхаду з крызісу і стратэгіі аднаўлення.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**SOS!**

## Памерлі 240 чалавек…

*Пра гэта паведамляе Міністэрства аховы здароўя.*

У Беларусі на 1 чэрвеня зарэгістраваны 43.403 чалавекі са станоўчым тэстам на COVID-19. Усяго праведзена 553.377 тэстаў.

Папраўіліся і выпісаны 18.776 пацыентаў, у якіх раней быў пацверджаны дыягназ COVID-19.

За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі на тэрыторыі краіны памерлі 240 пацыентаў з шэрагам хранічных захворванняў з выяўленай каранавіруснай інфекцыяй.



Народная Воля http://www.nv-online.info
2 ЧЭРВЕНЯ 2020 г.

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Дзірк ШУБЕЛЬ, Амбасадар Еўрапейскага Саюза ў Рэспубліцы Беларусь:

# «Беларусь важная як частка еўрапейскай спадчыны і частка нашай шырокай еўрапейскай супольнасці нацый»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**– Наколькі паўплывала пандэмія COVID-19 на палітыку Еўрапейскага Саюза? Вядома, што ў шэрагу выпадкаў былі адноўлены ўнутраныя міждзяржаўныя межы. Ці не застанецца гэтае часовае абмежаванне назаўсёды – асабліва ўлічваючы сітуацыю з праблемай бежанцаў, якая істотна абвастрылася якраз напярэдадні пандэміі?**

– Свабода перамяшчэння – частка самога падмурка ЕС. Абмежаванні неістотных паездак былі неабходны з-за пандэміі COVID-19, але ўсе пагадзіліся, што адмена абмежаванняў на неістотныя паездкі ў ЕС і праз яго знешнія межы павінна адбыцца паступова і быць ўзгоднена, як толькі гэта дазволіць эпідэміялагічная сітуацыя. Некаторыя краіны ЕС паступова здымаюць абмежаванні на неістотныя падарожжы. Галоўным фактарам аднаўлення паездак з'яўляецца эпідэміялагічная сітуацыя, дапоўненая патрабаваннямі аховы здароўя.

**– У Беларусі пачаліся прэзідэнцкія выбары. Ці можна сказаць, што ў Еўрапейскага Саюза ёсць пэўныя чаканні ад гэтых выбараў? Ці будзе ваш офіс весці маніторынг на працягу выбарчай кампаніі? Ці плануеце вы сустракацца з кімсьці з кандыдатаў пасля іх рэгістрацыі?**

– Еўрапейскі Саюз разлічвае, што беларускія ўлады будуць выконваць абавязацельствы Беларусі, у тым ліку як дзяржавы-ўдзельніцы АБСЕ, у дачыненні да выбараў і прытрымлівацца рэкамендацый, зробленых назіральнымі місіямі БДІПЧ АБСЕ пасля папярэдніх выбараў. ЕС будзе сачыць за выбарчым працэсам як мага больш уважліва ва ўмовах пандэміі COVID-19. Як правіла, дыпламаты імкнуцца сустрэцца з ключавымі ўдзельнікамі выбараў у краінах свайго знаходжання, каб лепш разумець развіццё падзей і быць здольнымі ацэньваць сітуацыю і даваць парады свайму ўраду. Цяперашнія выбары ў Беларусі не будуць выключэннем, але зноў жа ў той ступені, у якой гэта дазволіць эпідэміялагічная сітуацыя.

**– Чытачы нашай газеты хацелі б ведаць, як адбываецца прызначэнне амбасадара ад Еўрапейскага Саюза ў Мінск. З амбасадарам асобнай дзяржавы ўсё зразумела: МЗС прапаноўвае кандыдатуру, яе абмяркоўваюць у парламенцкай камісіі, пасля прэзідэнт падпісвае даверчыя граматы. А як гэта адбывалася з вамі?**

– Працэдура прызначэння Амбасадара ЕС дакладна такая ж. Па-першае, выбіраецца з дзясятак кандыдатаў, з якімі праводзяцца сумоўі. Затым Высокі прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі вылучае кандыдатуру на пасаду амбасадара і паведамляе пра гэта адпаведнай краіне. Пасля таго як гэта краіна дасць згоду на прызначэнне, прызначаны амбасадар накіроўваецца туды, каб уручыць даверчыя граматы кіраўніку дзяржавы альбо ўрада.

**– У чым галоўны абавязак Амбасадара Еўрапейскага Саюза ў краіне яго прызначэння? У нас працуюць амбасады большасці дзяржаў, якія ўваходзяць у склад ЕС.**

– Задача пасла ЕС – наладзіць эфектыўны дыялог з уладамі прымаючай краіны, грамадзянскай супольнасцю, бізнесам, міжнароднымі арганізацыямі і амбасадарамі краін ЕС па пытаннях эканомікі, сацыяльнай сферы, кіравання, правоў чалавека і па іншых аспектах дзяржаўнай палітыкі. Амбасадары Еўрапейскага Саюза перадаюць пазіцыю ЕС органам улады прымаючай краіны, арганізуюць супрацоўніцтва паміж інстытутамі ЕС і інстытутамі прымаючай краіны, а таксама дапамагаюць рыхтаваць і ажыццяўляць у дадзенай краіне праграмы супрацоўніцтва, якія фінансуюцца ЕС.

**– Што вы ведалі пра нашу краіну напярэдадні свайго прыезду ў Мінск? І наколькі гэтыя веды адрозніваліся ад рэальных уражанняў?**

– Да таго як я заняў сваю цяперашнюю пасаду ў верасні 2019 года, я шмат гадоў чытаў пра сітуацыю ў Беларусі, калі кіраваў падраздзяленнем Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў, адказным за двухбаковае супрацоўніцтва з краінамі Усходняга партнёрства, і я шмат разоў наведваў Мінск у гэтай якасці, часта на чале дэлегацыі ЕС на пасяджэннях Дыялогу па правах чалавека ЕС–Беларусь. Зараз, знаходзячыся ў Мінску, я пачаў адкрываць для сябе новыя вымярэнні Беларусі, яе мінулае і штодзённае жыццё, гарады і вёскі, мастацкую сцэну і вулічную ежу. Я ўдзячны, што пазнаёміўся з надзвычай цікавымі людзьмі ў Беларусі і шмат з кім здолеў грунтоўна пагутарыць. Я спадзяюся, што змагу ўбачыць як мага больш падчас майго знаходжання ў Беларусі.

**– Як паставіліся да вашага прызначэння члены вашай сям'і? Ці ёсць у іх нейкія ўражанні?**

– Пакуль што мае жонка і дачка застаюцца ў Брусэлі, але я спадзяюся, што ў іх хутка з'явіцца магчымасць наведаць вашу цудоўную краіну і атрымаць уласныя ўражанні.

**– Вы прызвычаіліся да еўрапейскіх стандартаў камфорту і абслугоўвання. Ці адчуваецца нейкая розніца паміж імі і беларускімі стандартамі?**

– Мне зусім няма на што скардзіцца. Я адчуваю сябе ўтульна і камфортна ўсюды, дзе б я ні быў, у тым ліку калі праходжу дзяржаўныя адміністрацыйныя працэдуры, набываю нешта ў крамах ці карыстаюся паслугамі.

**– Ці шмат вы паспелі пабачыць у Беларусі? У якіх гарадах пабывалі? Ці можна сказаць, што ў вас з'явіліся нейкія ўлюбёныя месцы ў нашай краіне і ў нашай сталіцы?**

– Падчас першага ў Беларусі «восеньскага семестра» я з'ездзіў у Віцебск, Полацк, Наваполацк, Магілёў і Чавусы. Планы падарожжаў на «вясновы семестр» былі сарваны пандэміяй COVID-19, але я з нецярпеннем чакаю магчымасці аднавіць паездкі. У Мінску мне падабаюцца ўсе зялёныя зоны, і мне пашчасціла жыць побач са сцежкай, якая ідзе ўздоўж ракі праз увесь горад – ідэальны маршрут для працяглых шпацыраў.

**– Як вам працуецца з беларускімі афіцыйнымі асобамі – і ў сталіцы, і ў рэгіёнах?**

– Я вельмі ўдзячны сваім непасрэдным калегам з МЗС – яны заўсёды працуюць эфектыўна і ставяцца па-каляжанску. У мяне і многіх маіх калег склалася ўражанне, што абсалютная большасць дзяржаўных службоўцаў у Беларусі вельмі зацікаўлены ў тым, каб іх супольнасці рэалізоўвалі праграмы і праекты, якія фінансуюцца ЕС, у рамках і трансгранічных ініцыятыў, і галіновага супрацоўніцтва ва ўсіх сферах і па ўсіх пытаннях: ад кіравання межамі да турызму, ад аховы здароўя да гатоўнасці да надзвычайных сітуацый, ад аховы біялагічнай разнастайнасці да валанцёрства і сацыяльнай работы.

**– Ці ўнесла пандэмія нейкія карэктывы ў вашу працу?**

– З сярэдзіны сакавіка Прадстаўніцтва ЕС працуе, наколькі гэта магчыма, дыстанцыйна. Няма неабходнасці казаць, што мы адклалі альбо адмянілі ўсе «афлайнавыя» візіты, сустрэчы і мерапрыемствы. Як многія іншыя і ў Беларусі, і ў свеце, мы шмат часу праводзім ля маніtoраў, мала кантактуем з людзьмі і максімальна скарацілі свае перамяшчэнні, каб дапамагчы стрымаць распаўсюджванне віруса.

**– Што вы зробіце перш за ўсё пасля таго, як даведаецеся, што COVID-19 больш не пагражае, што можна вольна выходзіць на вуліцу і сустракацца з людзьмі?**

– Не думаю, што адбудзецца нейкае рэзкае пераключэнне, – у большасці краін, якія стрымалі распаўсюджванне COVID-19, абмежаванні будуць па-ранейшаму здымацца паступова і асцярожна, па ўзгадненні з непасрэднымі і больш далёкімі суседзямі. Мушу прызнаць, што мне вельмі не хапае жывых размоў з людзьмі – відэасувязь проста не можа іх замяніць. Вядома, усе ў такой сітуацыі чакаюць, калі ўжо можна будзе свабодна падарожнічаць. Але ў першую чаргу нам неабходна зрабіць так, каб гэта было дастаткова бяспечна.

КОМУ ВЕРИТЬ?

# «Газпром» потребовал от Беларуси вернуть долг за газ

*На минувшей неделе председатель правления «Газпрома» Алексей Миллер заявил, что компания не будет начинать переговоры по поставкам газа в Беларусь в 2021 году до тех пор, пока Минск не возместит долг за это сырье в размере 165 миллионов 570 тысяч долларов.*



По его словам, Москва уже направила в Минэнерго Беларуси соответствующее письмо.

Ранее **Александр Лукашенко** возобновил торг с **Владимиром Путиным** по поводу цены на газ. По его мнению, 127 долларов сейчас не платит даже Европа, а для братского народа стоимость могла быть снижена в три раза.

14 февраля Беларусь подписала контракт с «Газпромом» на поставку газа в Беларусь и его транспортировку через территорию страны на 2020 год. Алексей Миллер, а также посол Беларуси в России **Владимир Семашко** объявили, что в этом году цена газа для Беларуси останется на уровне предыдущего – 127 долларов за тысячу кубометров.

Однако первый вице-премьер Республики Беларусь **Дмитрий Крутой** подчеркнул, что это только базовый вариант и Минск будет добиваться «корректировки».

В апреле Минск стал инициировать вопрос о снижении в 2020 году цены на российский газ для Беларуси на фоне падения мировых цен на энергоресурсы, в том числе на природный газ.

27 мая премьер-министры Беларуси и России **Сергей Румас** и **Михаил Мишустин** поручили главам министерств энергетики двух стран продолжить переговоры по вопросу ценообразования на газ для Беларуси. При этом Мишустин заявил о *«важности четкого выполнения двусторонних договоренностей»*.

Кстати, четыре год назад «Газпром трансгаз Беларусь» был вынужден подать в суд, считая, что облгазы недоплачивают за природный газ, поставляемый в страну. Тогда размер долга оценивался в 270–300 млн долларов. Конфликт удалось разрешить в течение года, придумав «перетаможку» нефти.

## Задолженности нет!

*На заявление Алексея Миллера моментально отреагировало Министерство энергетики Беларуси.*

«Республика Беларусь не имеет задолженности за импортируемый природный газ, – *говорится в официальном ответе министерства.* – Расчеты за поставляемый природный газ осуществляются белорусскими газоснабжающими организациями с ОАО «Газпром трансгаз Беларусь» в соответствии с заключенными договорами.

В настоящее время между субъектами хозяйствования имеются разногласия по определению стоимости поставляемого природного газа с учетом его калорийности.

Урегулирование возникших вопросов находится в компетенции хозяйствующих субъектов».

ПОДСЧИТАЛИ

## Насколько выросла коммуналка?

*В Беларуси повысили субсидируемые тарифы на теплоснабжение (отопление и обогрев воды) – с 18,4831 до 20,6216 рубля за 1 Гкал. Июньское подорожание услуг теплоснабжения предусмотрено плановым повышением тарифов на ЖКУ в пределах 5 долларов.*

Экономически обоснованный тариф на эти услуги также вырастет – с 88,99 рубля до 92,25 рубля за 1 Гкал (в прошлом году его не повышали), пишет *TUT.BY*.

Как и в 2019 году, в 2020-м тарифы на ЖКУ повышают в два этапа: с 1 января (в среднем на 3,5 доллара) и с 1 июня (на 1,5 доллара).

Как подсчитал *Myfin.by*, в двухкомнатной квартире в Минске площадью 50 кв.метров, к примеру, в которой прописан 1 человек, за потребленный объем в 1,0163 Гкал до 1 июня нужно будет заплатить 18,78 рубля. А в ноябре или декабре 2020 года – 20,96 рубля (так как отопительный сезон уже заканчивается, то платежки потяжелеют уже в новом). Если в квартире никто не прописан, то оплата составит 90,44 рубля (до 1 июня) и 93,75 рубля (в ноябре или декабре 2020-го).

За горячую воду (за 0,4198 Гкал) до 1 июня в такой квартире плата составит 7,76 рубля, а с 1 июня – 8,66 рубля.

СІТУАЦЫЯ

# На выхад!

*Арэндадаўцы паставілі бізнесменаў у такія ўмовы, што даводзіцца закрывацца.*

Нагадаем, што кампанія Юрыя Алейніка ўжо чатыры гады арандуе плошчы на тэрыторыі сталічнага завода "Гарызонт". У гэтым жа месцы – іншыя забаўляльныя цэнтры, фотастудыі, фірма па вытворчасці адзення, творчыя майстэрні…

Зараз, калі людзі з-за каранавіруса перасталі хадзіць у такія ўстановы, прадпрымальнікі аказаліся закладнікамі сітуацыі. Прыбытку няма, а за арэнду трэба плаціць вялізныя грошы.

*"Я арандую каля 350 квадратных метраў і плачу як за арэнду, так і за камунальныя паслугі,* – кажа Юрый Алейнік. – *За сакавік толькі за ацяпленне трэба было заплаціць каля 2 тысяч рублёў. А сумарна па ўсіх плацяжах за арэнду, эксплуатацыйныя і камунальныя паслугі, уборку памяшканняў і гэтак далей у месяц набегла каля 3700 долараў".*

Ужо больш за два месяцы прадстаўнікі бізнесу спрабуюць дамагчыся хоць якіх-небудзь саступак з боку арэндадаўцы – ЗАТ "Гарызонт-Белінвест-Дэвелопер". Прасілі зніжэння арэнднай стаўкі, адтэрміноўкі (растэрміноўкі) плацяжоў ці арэндных канікул. Пагадзіліся б на любыя варыянты, тым больш што многія беларускія арэндадаўцы пайшлі на саступкі сваім партнёрам-арандатарам.

*"Пачынаючы з 9 сакавіка гэтага года мы звярталіся з індывідуальнымі і калектыўнымі зваротамі ў самыя розныя інстанцыі, але адусюль быў прыкладна адзін і той жа адказ: маўляў, рашэнне дадзенага пытання знаходзіцца ў руках галоўнага акцыянера-арэндадаўцы – ААТ «Кіруючая кампанія холдынгу «Гарызонт»,* – працягвае бізнесмен. – *За гэты час было нават ініцыявана стварэнне Саюза арандатараў плошчаў у карпусах завода "Гарызонт", і ў гэты саюз ужо маюць намер уступіць 42 арандатары, якія агулам арандуюць кадя 9 тысяч квадратных метраў.*

*Намі былі прадастаўлены арэндадаўцу даведкі аб падзенні прыбытку ў сярэднім на 90–95 працэнтаў, а таму вось ужо два месяцы няма магчымасці плаціць арэндную плату".*

Днямі адбылася сустрэча прадпрымальнікаў з прадстаўнікамі ААТ "Кіруючая кампанія холдынгу "Гарызонт", але дыялог закончыўся практычна нічым.

– Арэндадаўцы прапанавалі зафіксаваць курс еўра (а за арэнду мы плацім менавіта ў еўрапейскай валюце) да 1 верасня, а таксама знізіць арэндную плату на 10 працэнтаў на нявызначаны перыяд, – працягвае Юрый Алейнік. – Улічваючы, што бізнес стаіць на месцы, грошай няма, то нават такая зніжка – не выхад з сітуацыі.

Многія прадпрымальнікі збіраюцца адмаўляцца ад памяшканняў альбо закрываць свае бізнесы. Асабіста мне скасоўваюць дамову і, наколькі вядома, будуць спрабаваць выселіць.

**– Што далей збіраецеся рабіць?**

– Гэта вельмі складанае пытанне, бо мой бізнес, які звязаны з квэстамі і гульнямі, прывязаны да канкрэтнага месца, у якое я інвеставаў шмат грошай. Таму буду змагацца да апошняга…

**Алесь СІВЫ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Нуль за дзве гадзіны

*"Народная Воля" пацікавілася, як ідзе збор подпісаў за беларускага кіраўніка ў грамадскай прыёмнай арганізацыі "Белая Русь".*

Як вядома, збор подпісаў за прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду стартаваў 21 мая. 25 мая ў "Белай Русі" заявілі, што ініцыятыўная група па вылучэнні Аляксандра Лукашэнкі ў прэзідэнты ўжо сабрала 200 тысяч подпісаў.

У арганізацыі дадалі, што подпісы збіраюцца ў тым ліку і праз грамадскія прыёмныя, і ўчора я вырашыў на свае вочы пабачыць, наколькі актыўна народ падтрымлівае прэзідэнта…

10.30. Мінск. Грамадская прыёмная цэнтральнага апарату "Белай Русі" знаходзіцца ў Доме літаратара ля парку імя Горкага. На першым паверсе – нейкая мітусня. Хлопцы то заносяць, то выносяць мэблю, бачна, што ідзе пераабсталяванне пакоя.

На тым жа паверсе стаіць стол з надпісам "Белая Русь", побач – крэсла і партрэт беларускага кіраўніка. Відаць, тут і павінен адбывацца збор подпісаў, але няма ні зборшчыка, ні чаргі з падпісантаў.




*"Калі нехта прыходзіць, каб паставіць подпіс, то вахцёр выклікае кагосьці з ініцыятыўнай групы, і той выходзіць да наведвальніка,* – тлумачаць у арганізацыі. – *Няма сэнсу сядзець на адным месцы ўвесь час…"*

Пакуль жадаючых пакінуць подпіс за прэзідэнта няма, мне распавядаюць пра ўнутраную кухню збору подпісаў намеснікі старшыні "Белай Русі" **Аляксандр ШАЦЬКО** і **Сяргей ПІГАРАЎ.**

**Сяргей Пігараў:** – Подпісы збіраем праз грамадскія прыёмныя і нашы пярвічныя арганізацыі, якіх па ўсёй краіне больш за восем тысяч. У кожнай такой арганізацыі яе старшыня, як правіла, з'яўляецца сябрам ініцыятыўнай групы па вылучэнні Аляксандра Лукашэнкі ў прэзідэнты. Усяго ў "Белай Русі" 196 тысяч сябраў. Таму для нас сабраць 200 тысяч подпісаў не так і складана. Гэта было зроблена прыкладна за пяць дзён.

У першыя дні збор подпісаў ішоў вельмі актыўна. Напрыклад, спачатку ў нашу грамадскую прыёмную прыйшоў прафесарска-выкладчыцкі састаў Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, які знаходзіцца побач, а затым і студэнты. І мы набралі за дзень больш за дзесяць лістоў, а ў кожным лісце – 16 подпісаў. І гэта толькі з аднаго ўніверсітэта!

Затым прыходзіў ставіць подпісы наш актыў, 86 сябраў нашай пярвічнай арганізацыі…

**Аляксандр Шацько:** – Таксама сюды прыходзілі работнікі Следчага камітэта. Як пачалі з абеду ісці, то я пайшоў дадому позна вечарам.

**Сяргей Пігараў:** – Працуем літаральна без абеду, а подпіс можна паставіць з 8.30 да 19.00. Як правіла, раніцай ніхто не прыходзіць. Ідуць ставіць подпісы альбо ў абед, альбо пасля заканчэння працы.

Але варта сказаць, што гэта наша не самая актыўная кропка. Больш за ўсё подпісаў збіраецца ў пярвічных арганізацыях. Наша "пярвічка" працуе на заводах, ва ўніверсітэтах, у Акадэміі навук, у банках… Складана назваць арганізацыю, дзе нас няма.

**– У пікетах подпісы таксама збіраеце?**

**Сяргей Пігараў:** – Не, мы ад такой практыкі адышлі, бо гэта бессэнсоўны занятак. Па-першае, многія людзі не носяць з сабой пашпарты, а таму не маюць права паставіць подпіс.

**– У СМІ агучваюцца факты, якія сведчаць пра тое, што ва ўніверсітэтах, на прадпрыемствах, у грамадскіх аб'яднаннях людзей прымушаюць падпісвацца за дзеючага прэзідэнта…**

**Сяргей Пігараў:** – Я не бачыў ніводнага чалавека, якога білі б палкай, каб той паставіў подпіс. І нават ведаю аднаго зборшчыка, які адначасова збірае подпісы і за Аляксандра Лукашэнку, і за Віктара Бабарыку.

**Аляксандр Шацько:** – А што вырашае гэты подпіс? Чалавек можа падпісацца за аднаго прэтэндэнта, а прагаласаваць зусім за іншага кандыдата. Я не разумею, хто і як можа прымусіць ставіць подпіс. У мяне жонка ў школе працуе, там таксама на першым паверсе збірае подпісы ініцыятыўная група. Частка настаўнікаў наогул не хочуць падпісвацца, і ніхто нікога не прэсуе.

…За дзве гадзіны майго назірання я канстатаваў: ніхто з выбаршчыкаў за гэты час не зайшоў у грамадскую прыёмную "Белай Русі" па адрасе: Мінск, Фрунзе, 5. Праўда, паводле слоў маіх суразмоўцаў, я выбраў не зусім удалы час для маніторынгу. Маўляў, людзі прыходзяць ставіць подпісы пазней.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Кто организовал провокацию против участников пикета в Гродно и… Лукашенко?





Как известно, в минувшую пятницу Александр Лукашенко побывал на Минском тракторном заводе. Осмотрев новые образцы техники, поговорив с руководством предприятия, он, как обычно, решил пообщаться с представителями трудового коллектива.

Прямая видеотрансляция не велась, но, когда спустя какое-то время пошли кадры по телевизору, я, честно признаюсь, вздрогнул: большая толпа плотно прижавшихся друг к другу людей в чистеньких комбинезонах – и все без масок, как будто в стране уже нет коронавирусной эпидемии.

Вызвало удивление и многое из того, о чем говорил Александр Григорьевич. Понятно, не мог он обойти тему президентских выборов, а точнее – не пройтись по некоторым своим конкурентам.

О Викторе Бабарико прямо сказал: *«Этому банкиру впору подумать, где он будет работать после выборов».*

О Валерии Цепкало: *«…Вы у него спросите – почему я его уволил. Пусть честно расскажет. И ему потом не захочется идти на выборы».*

Тракторозаводцы узнали, что Александру Лукашенко импонирует, как, например, организован процесс сбора подписей у других потенциальных кандидатов – женщин: *«Они тихо, спокойно собирают эти подписи».*

А как это происходит у мужчин-соперников?

*«Мужики там кипиш подняли, где-то кто-то ходит, кричит. Недавно мне пресс-секретарь доложила: милиционера оскорбил* (участник пикета. – **Авт.**)*, когда ему сделал замечание. Они приезжают крутые, на джипах все – по 10–12 машин. В чужой город приехали, выстроились и пошли по площадям, улицам… На этого пацанёнка* (милиционера. – **Авт.**) *навалились. Он, наверное, только в этом году пришел на работу, чей-то же ребенок. Что ты на него накатываешь? И потом, рисковые люди, я бы на их месте с милицией поаккуратней был. Это же корпоративный народ. Найдет возможность, так ответит… Мне уже нелегко приходится, сдерживая их. Нарываются. Провокация – это лучшая реклама. Они это так понимают».*

Читателям, следящим за тем, как разворачивается избирательная кампания, не нужно пояснять, кому адресовал эти слова Александр Григорьевич, встречаясь с работниками Тракторного завода. Как и следующие: *«Мы знаем, на чьих машинах он ездит, кто его финансирует. Мы знаем, откуда он приехал, какое у него гражданство, и прочее…»*

Для несведущих поясню: это все о Сергее Тихановском, блогере, чья жена как претендентка на роль президента Республики Беларусь получила право на сбор подписей в свою поддержку. Но я хочу сказать совершенно о другом. О том, что **на самом деле** произошло в Гродно буквально через несколько часов после высказывания Александра Лукашенко на МТЗ. Как поняли те, кто в погонах, его слова *«Это же корпоративный народ. Найдет возможность, так ответит…»*? А поняли они, как мне кажется, абсолютно неадекватно. О том, что произошло в пятницу вечером в Гродно, любой, кто смотрел видеорепортажи, скажет: *«Это же страшно брутальная провокация!»* И, на мой взгляд, не столько, может быть, против Тихановского, сколько против самого Лукашенко. Надо же додуматься, чтобы именно в этот день, когда он публично высказался в защиту «пацанёнка-милиционера», в толпе оказался точно такой же «пацанёнок», только уже лежащий на асфальте! Тут, я считаю, речь идет не о профессионализме тех, кто грубо спровоцировал мелкую потасовку, а, скорее всего, о подрыве авторитета действующего президента.

Весь пикет по сбору подписей в поддержку Светланы Тихановской, проводимый в Гродно, до секунды зафиксирован на пленке. Как и в Минске, Слуцке, Солигорске и Гомеле, главным действующим лицом на нем был руководитель ее инициативной группы, он же муж, по имени Сергей. Законодательством и даже какими-то инструкциями Центральной избирательной комиссии четко не прописано, как должны вести себя участники пикета – стоять по два-три человека у регистрационных столиков, выстраиваться в длинные очереди, молчать или общаться между собой и с организаторами акции. И тут мне сложно говорить, какие нарушения на этот раз были допущены (или их вообще не наблюдалось) со стороны того же Сергея Тихановского. Есть кому за этим следить и давать оценки, но что через два часа пятьдесят минут после начала пикета произошла брутальная провокация – это факт! И я повторяю: провокация была направлена не столько против Сергея Тихановского и его помощников, сколько против Александра Лукашенко.

Тот, кто пошел на это, или полностью темен в современных онлайновских технологиях, или действительно решил подыграть оппонентам Александра Григорьевича, доведя до абсурда его публично сказанные слова. Когда, выступая перед тракторозаводцами, он говорил о некоем «пацанёнке-милиционере», подвергшемся грубости со стороны участников пикета, явно имел в виду событие минувших дней (если такое имело место). Вряд ли думал Лукашенко о том, что его высказывание *«Это же корпоративный народ* (милиция. – **Авт.**). *Найдет возможность, так ответит…»* уже вечером отрезонирует самой что ни на есть примитивной провокацией.

Все, у кого есть компьютер, в любой момент могут прокрутить видео, на котором четко запечатлено, как развивались события. Вот к Сергею Тихановскому подходят две женщины и атакуют его вопросами: мол, зачем он собрал людей и почему *«некоторые без масок»*? Блогер и руководитель инициативной группы не полез за словом в карман, он прямо сказал: *«Глава государства решил, что выборы проводить можно».* Это не удовлетворяет женщин, явно нацеленных на обострение диалога. Как из рога изобилия сыплются другие провокационные вопросы. Тихановский говорит женщине в кепке: *«Я не хочу с вами разговаривать…»* Но она продолжает его преследовать, хватая за одежду. Он не выдерживает такого напора, поворачивается и произносит: *«Если вы сейчас не уберете от меня руки, я вас толкну».* И уходит, женщины – за ним. Та, что в кепке, догоняет, выкрикивает: *«Слышишь, Сергей? Не убегайте, Серёжа! Слышишь, ты чё, вообще офигел?»* И опять хватает его за одежду.

*«Уберите женщину. Эта женщина – провокатор»,* – слышится в толпе. Участники пикета, обращаясь к ней, спокойно говорят: *«Что вы пристали к человеку?»* Один из членов инициативной группы объявляет по мегафону: *«На провокации не поддавайтесь!»*

И тут, откуда ни возьмись, милиция. Женщина в кепке жалуется: *«Я задала вопрос человеку, он от меня убегает».* Вот так обвинение! Даже намека нет на оскорбление или какое-то хулиганство. Казалось бы, правоохранители должны были прямо ответить настырной даме: «Со стороны гражданина Тихановского нет состава преступления, не можем вмешиваться…» Но куда там! Милиционеры делают бросок в сторону ускоряющего шаг Тихановского и сзади хватают его за руки. Конечно, тут же, защищая Сергея, образовывается небольшая толпа из участников пикета, люди возмущенно кричат, начинается потасовка.

Обратите внимание на такие кадры видео: двое мужчин – в зеленой куртке и черной кожаной – мгновенно оказываются рядом с молодым милиционером, и кажется, что в доли секунды подкашивают его, он падает на землю и, как в кино, замирает. Тихановский уходит, но навстречу ему – ОМОН. *«Ребята, я же ничего не нарушал»,* – последние его слова. Женщины, преследующие руководителя инициативной группы по сбору подписей в поддержку Светланы Тихановской, незаметно исчезают. ОМОН на них не обращает внимания, зато хватает активистов. За считанные минуты было задержано более десяти участников пикета. Других взяли ночью или на следующее утро.

Я пишу эти строки, еще не зная, какая судьба постигнет всех арестованных. Но, прокрутив трижды видео всего пикета, остаюсь в твердом убеждении: грязная провокация в Гродно была затеяна не только против Сергея Тихановского, участников пикета, но и против Александра Лукашенко, высказывание которого на Минском тракторном заводе были интерпретированы силовиками не в его пользу, а во вред ему. Не исключаю: возможно, известный блогер где-то и переступил черту дозволенного, но чтобы вот так безмозгло спровоцировать скандал на всю страну – на это могли пойти люди, не обладающие ни профессионализмом, ни понятием чести. Или поставившие перед собой цель сдать А.Лукашенко уже на первом этапе избирательной кампании.

И теперь нужно ждать ответа на вопрос, вынесенный в заголовок статьи: «Кто организовал провокацию против участников пикета в Гродно и… Лукашенко?»

**Анатолий ГУБСКИЙ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Так есть ли у граждан право на выбор?

В последний день весны, 31 мая, во многих городах Беларуси выстроились небывалые очереди. Люди пришли к столикам, где собирались подписи за выдвижение альтернативных действующей власти кандидатов в президенты. Стояли, соблюдая рекомендованную врачами в условиях эпидемии коронавируса, социальную дистанцию. Стояли в Гомеле, Бресте. Накануне стояли в Лиде и Гродно. Стояли там, где были журналисты, и там, где их не было.

Самая большая очередь выстроилась в Минске – около километра. Это значит, что одновременно в ней могли стоять примерно две тысячи человек.

В Минске и Гомеле произошло одно и то же, в принципе, ожидаемое событие. К столикам, за которыми сидели сборщики подписей, подошли милиционеры, чтобы предупредить их:

– Ваша акция не санкционирована. Просим разойтись…

Что это? Какая акция? Почему нужно расходиться?

Граждане пришли, чтобы поставить свою подпись за выдвижение кандидата в президенты Республики Беларусь. Граждан было много. У них было общее видение ситуации: государственная политика зашла в тупик, и если уж за двадцать шесть лет перемен к лучшему они не ощутили, то политику нужно менять – вместе с политиками, которых тоже нужно менять. Подпись каждого – еще один шаг из необходимых ста тысяч, чтобы приблизить альтернативу. Естественно, начинается разговор единомышленников. Иногда – на повышенных тонах. Потому что – достало. В Витебске, судя по тому, что показывали журналисты в интернете, прямо это слово и употребляли:

– Достало!

Люди подходили к видеокамерам, не боясь говорить, что они думают. Днем. Некоторые называли свои имена и адреса. Потому что действительно – терять нечего. Достало!

Какая акция не санкционирована? Всё санкционировано. Раз в пять лет, согласно Конституции, граждане приходят к столикам, чтобы поставить свою подпись. Это их право. Что они нарушают? Сборщики подписей имеют право их собирать, имеют право отвечать на вопросы граждан (не обязаны, но имеют). Нет акции, требующей санкционирования.

Милиционер может мне возразить:

– Наличие звукоусиливающей аппаратуры превращает сбор подписей в пикет другого рода и требует специального разрешения.

– Да, товарищ в погонах? А где это написано? Покажите норму закона или резолюцию ЦИК о том, что при сборе подписей в поддержку тех, кто решил посостязаться за высокий пост, запрещается использовать звукоусиливающую аппаратуру и вообще открывать рот! Нет таких норм и резолюций? Тогда это и впрямь – не ваше дело. Вот начнется потасовка – будет ваше. А пока – не ваше.

Задача милиции состоит в охране общественного порядка. Но в воскресенье, когда происходило все описанное, никто общественный порядок не нарушал. Задача милиции состоит в обеспечении безопасности граждан. А что – кому-нибудь что-нибудь угрожало? Нет.

Показательно, что и подписанты, выстроившиеся в очереди по стране, и сами милиционеры явно понимали, что никто ничего не нарушает. В Минске возле главного столичного рынка, где выстроилась небывалая очередь, сотрудник МВД, прибывший, чтобы объявить о несанкционированности мероприятия, в сопровождении двух омоновцев, удалился в здание рынка под свист и аплодисменты собравшихся. Туда же одна бойкая женщина умудрилась загнать при помощи только слов, вполне цензурных, и троих «парней в штатском», снимавших собравшихся на видеокамеру. Нечто похожее произошло и в Гомеле.

Так почему же вообще милиция начала ходить на сбор подписей, словно пытаясь распугать собравшихся заявлениями о несанкционированной акции? Может быть, именно потому, что никому ничего не угрожало, власть видит в этом мирном и абсолютно законном протесте угрозу. Угрозу кому? Обществу – нет. Нынешней власти – может быть. Но всё решится во время голосования. Граждане считают, что подпись за альтернативного кандидата – это реализация конституционного права. Других толкований быть не может. И никакого разрешения, кроме регистрации инициативной группы, эта реализация не требует. Никаких дополнительных санкций. Потому что все дополнительные санкции являются ограничением этого конституционного права. А оно, ограничение это, недопустимо в принципе.

Потому что граждане – это НАРОД. Единственный суверен нашей страны. Единственный источник ее государственности. И даже если вам не нравится выражение его лица, будьте добры, отойдите в сторону и займитесь регулированием дорожного движения. А то у нас журналист газеты Администрации президента Роман Рудь уже начал опровергать идею выборности власти, что вообще-то даже действующий президент себе не позволяет. Что он при этом думает, не опровергая идею выборности, – это вопрос к нему.

А поскольку сейчас предвыборная кампания, дайте народу возможность изъявить свою волю. И разница в толкованиях законодательства должна решаться в пользу конституционного права граждан. Тем же, кто считает по-другому, не место (по моему мнению – мнению частного лица, обладающего всеми правами гражданина Республики Беларусь) на государственной службе. Не для того мы налоги платим, чтобы на них наши же права ограничивали.

А милиция пусть занимается своим делом. Пусть охраняет собравшихся от провокаторов. Будет больше порядка.

ПЕРЕСТРЕЛКА

## Александр Лукашенко – о Викторе Бабарико

– Я понимаю, что это банкир *(Виктор Бабарико. – **Ред.**)* где-то сделал, – видел в интернете заявление, что ему якобы до выборов что-то предлагали. Этому банкиру впору подумать, где он будет работать после выборов. И вообще со школы и вас, и меня учили: не ври. В Беларуси только один человек по Конституции имеет право предложить должность премьер-министра и внести кандидатуру в парламент для утверждения. Я никому ничего не предлагал. Тем более ему. Какой опыт у него, чтобы быть премьер-министром?.. В ближайшее время вы увидите. Я назначу исполняющего обязанности в этом правительстве, и после выборов, если он будет хорошо работать, мы его утвердим.



## Виктор Бабарико так отреагировал на вопрос «Вам действительно предлагали пост премьер-министра?»:

– Если взять тот текст, у нас есть запись минут на 30, где был и вопрос относительно того, готов ли я объединяться с кем-либо. Действительно, было обращение со стороны одной из инициативных групп о том, что давайте объединимся, и именно на это я отвечал. Я спросил: а на каких условиях? Мне было сказано: вы снимаетесь, а мы потом победим и вам предложим пост премьер-министра.

Я не ожидал, что это будет воспринято так однозначно, то предложение из одного штаба. У меня было несколько интервью, в которых я сказал, что это точно было не из штаба действующего президента, и был поражен тем, насколько непрофессионально работают те, кто на сегодняшний день обеспечивает информационную поддержку действующей власти, потому что это наглая ложь относительно того, что содержалось в моем обращении. Либо второе: это сознательная дезинформация. Я вообще не могу понять: каким образом мы живем в стране, где допустимы либо сознательная ложь руководству страны, либо дезинформация и непрофессионализм.

***

Что касается совета А.Лукашенко, что «этому банкиру впору подумать, где он будет работать после выборов», то В.Бабарико ответил довольно иронично:

– Пока я ищу работу до 9 августа. Не возьмут 9-го, может, появится 23-е (теоретически это день второго тура голосования). А если и тогда не возьмут, тогда буду думать.

## Александр Лукашенко – о Сергее Тихановском:

– Мы знаем, на чьих машинах он ездит, кто его финансирует. Мы знаем, откуда он приехал, какое у него гражданство и прочее… Мы все это знаем.

## Реакция Сергея Тихановского:

– Машины, на которых ездит команда, бензином заправляют подписчики моего канала.

Я всегда был гражданином Беларуси и уезжать из страны не собираюсь ни при каких обстоятельствах. Я уже не удивлюсь, если они где-то договорятся там с какими-то спецслужбами, паспорт еще какой-нибудь сделают и покажут разворот. Никогда не был я гражданином никакой другой страны, только своей Беларуси, и в принципе желания не было, особенно сейчас, поменять паспорт.



РЭАКЦЫЯ

# Пасля хапуна

*Пасля таго як былі арыштаваны Сяргей Ціханоўскі, муж і кіраўнік ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай, прэтэндэнткі на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, і яго памочнікі, у цэнтры Гродна ў суботу і нядзелю людзі выстройваліся ў вялікія чэргі, каб паставіць свой подпіс за вылучэнку. Усе яны выказвалі абурэнне затрыманнем Ціханоўскага і іншых актывістаў.*



У суботу, нягледзячы на праліўны дождж, людзі стаялі пад парасонамі ў чарзе, каб паставіць подпіс за Святлану Ціханоўскую. У нядзелю, калі надвор'е наладзілася, чарга да сябраў ініцыятыўнай групы Ціханоўскай расцягнулася па ўсім перыметры Савецкай плошчы. Падобнай карціны падчас выбарчых кампаній у Гродне ніхто не мог прыгадаць.

Чарга Валянціны Аляксееўны (так назвалася жанчына) падыходзіць да сталоў, за якімі сябры ініцыятыўнай групы збіраюць подпісы. Цікаўлюся: колькі ёй давялося стаяць?

– Я прастаяла мала не тры гадзіны, – адказвае жанчына даволі бадзёрым голасам.

Пытаюся, што яе сюды прывяло і прымусіла так доўга стаяць у чарзе.

– Ведаеце, я чалавек апалітычны, ды і на выбары практычна ніколі не хаджу. Але калі ўчора ў інтэрнэце пабачыла, якую правакацыю ўчынілі тут супраць Ціханоўскага, то вырашыла, што абавязкова пайду і пастаўлю подпіс за яго жонку.

Валерый – малады чалавек. Ён і яго жонка Аксана таксама стаяць у чарзе некалькі гадзін, і іх гэта не палохае. Цікаўлюся, што іх сюды прывяло.

– Надакучыла несправядлівасць, тое, што жывём ад заробку да заробку і не відаць ніякай перспектывы, – адказвае хлопец.

– Учарашнія падзеі з Ціханоўскім – гэта натуральнае свавольства, – дадае Аксана. – Канешне, мы думалі, што будуць правакацыі, але каб учыніць такое!.. Так не павінна быць, мы ўжо баімся за сваіх дзяцей, а таму і прыйшлі сюды. Мы хочам мець чэсную ўладу, а не тое, што тут адбылося.

Наталлі і Сяргею таксама яшчэ да 30 гадоў. У руках у іх разгорнутыя пашпарты. Яны добразычліва адказваюць, што прыйшлі сюды, пабачыўшы ў інтэрнэце відэаролік з падзеямі на Савецкай плошчы.

– Гэта была правакацыя, – сцвярджае Сяргей. – Прычым відавочная, дастаткова паглядзець відэа, і там відаць, як правакавалі Ціханоўскага і яго прыхільнікаў.

Наталля дадае, што сведкамі гэтай правакацыі былі сотні людзей на плошчы.

– Акрамя ўсяго, факты засведчаны на відэа, і ад людзей гэта ўжо не схаваць, бо мільёны паглядзелі відэаролік, – упэўнена Наталля.

Ганна стаіць у чарзе з двума дзецьмі дашкольнага ўзросту. Яна кажа, што прыйшла сюды дзеля таго, каб паўплываць на змену ўлады.

– Далей так жыць ужо немагчыма! Няма за што гадаваць дзяцей, – кажа жанчына. – Я яшчэ ўчора, як паглядзела відэа ў інтэрнэце, адназначна вырашыла, што пайду з дзецьмі на плошчу.

Да нас паварочваецца мужчына, які стаіць наперадзе, і просіць, каб мы цішэй размаўлялі, бо знойдуцца тыя, хто назаве гэта мітынгам.

– Не трэба даваць ім ніякіх падстаў для правакацый, бо яны на ўсё здольныя, – перасцерагае ён нас.

Цікаўлюся ў членаў ініцыятыўнай групы, якія запісваюць у ведамасці дадзеныя пашпартоў: колькі часу яны ўжо працуюць? Маладая жанчына адказвае, што прымае подпісы ад 12-й гадзіны і яшчэ нікуды з месца не адыходзіла. Мужчына за суседнім сталом дадае, што працягне працаваць да той пары, пакуль людзі будуць падаваць ім пашпарты.

Побач са сталамі пад намётам маладыя людзі арганізавалі дружыну, якая сочыць за парадкам. Адзін з яе ўдзельнікаў, Віктар, кажа, што і ў суботу, і ў нядзелю тут шмат людзей, але ўсё адбываецца прыстойна і без усялякіх парушэнняў правапарадку.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

*Новая паэма выдатнага нашага паэта **Сяргея Законнікава** зрабіла на мяне велізарнае ўражанне, таму што гэта твор эпічны, які праз асабісты лёс аўтара адлюстроўвае гісторыю Айчыны, выходзячы на актуальныя агульначалавечыя праблемы. Шматбакова і маштабна раскрываюцца розныя перыяды ў жыцці нашага народа. Мне вельмі імпануе, што паэма, нягледзячы на яе суровасць, – твор аптымістычны, а яго фінал гаворыць пра тое, што калі мы пастараемся, то будзем мець дэмакратычную, заможную, свабодную краіну.*

***Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік НАН Беларусі, РАН, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР.***



## Сяргей ЗАКОННІКАЎ

# ПЯКЕЛЬНЫ КАЛЯНДАР

(паэма)

*Унуку Францішку*

### Уступ

*«Спыніся, імгненне! Ты непаўторнае...»*
Гётэ

Кожны можа падумаць над выразам гэтым,
Мець да формулы генія свой падыход…
Толькі час не спыніць нават словам паэта,
Бо прырода яго – несупынны палёт.

Добры дзень з нешчаслівым замешаны крута,
Адчуваю, як сціснуў мне сэрца замес,
Бо ніколі не жыў са спіною сагнутай,
Бо з няпраўдай і страхам ішоў уразрэз.

Так…
Жыццё да сябе назаўжды не прыслоніць,
Абрываецца лёсу напнутая ніць.
Грозны век, што мяне патрымаў у далонях,
Аблачынкай маленькай у вечнасць ляціць.

Кон нам выпаў – любіць, хваляваца і петрыць,
Хоць набытак мільярдаў і пойдзе на скрут.
Недзе ў высях далёкіх касмічны дыспетчар
Пракладае бясстрасна канечны маршрут.

На планеце завозна: то форум, то саміт,
Вынаходствы, ідэі – усё ў барацьбе...
Час ніяк не спыніць…
Мы спыняемся самі,
Каб уважліва глянуць на свет,
На сябе.

### Печ. 1948

У свеце радкоў, дзе ёсць «хлеб» і «вада»,
Які надта цяжка мне ўразіць нечым,
Пачну танцаваць, больш дакладна, складаць
Свой сказ пра апёк ад звычайнай печы.

У хаце яна – незаменная рэч,
Стаіць заўжды «суверэннай краінай»,
Таму самай першай з мінулага печ
Прыйшла на схіле жыцця ва ўспаміны.

Плывуць з таго часу не толькі цяпло,
Але і дзівосныя словы казак.
Утульны куток, дзе яднанне жыло,
Надзейна вузельчык быцця завязваў.

Агонь у гарніле насычваў сям'ю,
Чарэнь сагравала дарослым плечы,
Аднак расхінала прастору сваю
Яна часцей для дасужай малечы.

Была печ аб'ёмнай, бо меўся загнет,
Запечак, падпечак, пячуркі, юшкі,
А побач чалеснік…
Шмат розных прыкмет
Мой роздум у стане зараз пагушкаць.

Была печ багатай, бо там – угары,
Куды забаронена дзецям лезці,
Мяшэчкі і торбачкі на каптуры
Дабро сцераглі ад знішчальнай плесні.

Маленства маё – пах сушоных грыбоў,
Чарніцы, яблыкі, грушы – нязменна.
Адтуль яшчэ ўдзячна забраў я з сабой,
Панёс водар мяты, кропу і кмену.

Ды так стала потым, калі больш падрос,
Калі мы сям'ёю дом збудавалі…
Пасля страшнай бойні вандроўніцкі лёс
Настаўнікі мелі – Іван і Валя.

Бацькам давялося мяняць месцаў шмат,
Жылі без уласнай хаты – пры школе,
Бывала, што я і старэйшы мой брат
Сядзелі на печы доўга даволі.

Урокі матуля за сценкай вядзе,
Уся на нервах, бо: як там малыя?
Чарэнь прыпякае.
Спаўзеш – быць бядзе...
Скаціўся я з посцілкі, дзіччу выю.

Выпадак, калі меў яшчэ два гады,
Не помню, не зводжу да нейкай драмы,
Але ён застаўся ў сям'і назаўжды…
Цытую дакладныя словы мамы:

«Прыбегла на крык. А мой ты сынок!
Падпашкі ўзяў Міша, сам на каленьках…
Гляджу – на жывоціку моцны апёк,
Даволі ладны, з гурочак маленькі».

Даўно ў хаце мамы і таты няма,
Наш комін высокі не курыцца дымам.
Імгненне, якое захочаш стрымаць,
Стралой пралятае – гонка і міма.

З чарэні мой лёс, як умеў, так і цёк,
Навошта яго папракаць у нечым...
За ўсё, што было, і за даўні апёк
Хачу пакланіцца нястомніцы-печы.

### Іржавыя танкеткі. 1952

Пакуль я падрастаў, сляды вайны
Быццё сцірала з долу неўпрыкметку.
На папялішчах вёсак каміны
Жылі нядоўга як навалы сведкі.
Вяскоўцы звезлі цэглу, бо наноў
Стаўлялі, як маглі, паспешна хаты…
Той час не выпадае з цёмных сноў,
Якімі будзень сённяшні багаты.

Яшчэ адзін прывід я сню ўначы,
Які паўсюль у краі быў нярэдкім:
Ля сцежкі, што ў бабулін двор імчыць,
Стаялі дзве фашысцкія танкеткі.

Яны, падобныя на дзіўных жаб,
Драмалі ў крапіве каля канавы.
Хоць страшнавата, скрозь была іржа,
Ды ў люк нам з братам зазірнуць цікава.

Пакуль на пераплаўку ўвесь метал
З захламленых ваколіц не сабралі,
Дапялі ў поўны рост мы там устаць,
Змаглі абмацаць рычагі, педалі…

Праз рукі потым арсенал прайшоў,
Але, надзіва, нам пашанцавала –
Не згінулі, ды толькі над душой
Лятае дух нязбытнае навалы.

Мы помнім тол, што выплаўляўся ў жах,
Як апякаў далоні холад зброі,
Як смерць будзілі міны на палях,
І як ушчэнт співаліся героі.

Я выслухаў шмат праўды пра вайну,
Бо ў хаце – франтавік і партызанка,
Таму мяне не зможа падмануць
Ад прапаганды новая «падлянка».

Калі хлусня калыша людзям слых,
Грыміць парадаў і салютаў буча,
Мне бачацца падмуркі хат былых,
Спавітыя ажыннікам калючым.

Я ненавіджу палец на курку,
Усіх забойцаў, што ва ўладу лезуць…
Як скажуць пра «жалезную руку»,
Б'е ў нос смурод гарэлага жалеза.

### Адыход тырана. 1953

*«Сапоги – это очень удобно, можно так ногой пнуть в морду, что все зубы вылетят»; «И всё-таки любит меня мой народ».*
З выказванняў І. Сталіна

*«Хамоватый недомерок», – так да ўзурпацыі ўлады называлі Сталіна партыйцы. Са 139 членаў і кандыдатаў у члены ЦК ВКП(б), абраных на XVII з'ездзе партыі (1934 год), 70% былі арыштаваны і расстраляны ў 1937 – 1938 гадах як «ворагі народа». З 1966 дэлегатаў асуджана за контррэвалюцыйныя выступленні больш паловы – 1108 чалавек.*
З палітычнага даведніка

Дзень той згадваю, быццам праплыў ён учора…
Галашэнне настаўніц лунала наўкола...
Мы на ложку сядзелі радочкам чацвёра –
Недаспаныя дзеці дырэктара школы.

Рэпрадуктар ахрып ад жалобнае весткі,
Што краіну, нібы землятрус, скаланула.
Толькі плач не спыніў волю радасці весняй,
Нечакана прыйшло развітанне з мінулым.

Мы няўцямна на свет на ўсе вочы глядзелі,
Мы дарма натапырвалі чуйныя вушы,
Недасяжным быў сэнс эпахальнай падзеі
Нават тым, хто ў змаганне за трон хціва рушыў.

Толькі там – за калючкай, у затхлай няволі,
Навіна разагнала панылассь і морак.
Гэткіх скокаў ГУЛАГ больш не ўбачыў ніколі,
Так бурліла людское шчаслівае мора:
«Сдох Гуталин!
Усатый надел деревянный бушлат!
Жди амнистии!»

… У пакоі задушлівым бабскія слёзы,
Быццам сок сакавіцкі сачыліся ў зляку.
Толькі бацька глядзеў у вакно на бярозы,
Толькі бацька маўчаў –
Не ўсміхаўся, не плакаў.

Выраз твару худога – зацяты, маўклівы –
Праз гады, старшакласнікам, я зразумею,
Калі ў вязняў былых і ў глыбокіх архівах
Мы шукалі хоць нешта пра дзядзьку Сяргея.

А тады ўсё было пад хлуснёю схавана:
Як наладзіў садыст нечуваную бойку,
Як даносы пяклі стукачы апантана,
Як ударна пацелі расстрэльныя «тройкі»,

Як пад брэх ваўкадаваў нямыя калоны
Упаўзалі ў нявольніцкі холад і голад,
Як дрыжэлі ад страху ў кватэрах мільёны,
Хоць далдоніў пра поспехі дыктарскі голас.

Ён пайшоў на той свет, а ў Маскве да світання
Зноў змывалася кроў, прыбіраліся трупы.
Да трох тысяч ахвяраў забраў развітаннем
У бязлітаснай даўцы на вуліцы Трубнай.

Шмат гадоў баязліва, бязладна, няўмела
Адсявалася ад асцюкоў праўды зерне,
Але ўсё ж і дагэтуль не ўсім зразумела,
Што тыран чалавекам быў надта мізэрным.

Людзі розныя…
Сутнасць, канешне, не ў росце,
Не ў слядах воспы і не ў руцэ сухаватай,
Не ў ступні толькі 40 памерам, а проста
Сталін жыў шантажыстам, садыстам і катам.

Ён і сёння атручвае свет, плодзіць клоны,
І нішто ўжо віны вурдалака не скосціць.
Варта ўбачыць вусаты партрэт над калонай –
Мне чуваць, як трашчаць чалавечыя косці…

Клоны Сталіна ткуць папулізм і інтрыгі,
Бо любошчы з уладай страшней, чым зараза…
Меў да смерці тыран з мяккай скуры ічыгі,
Ды ад іх след застаўся крывавы, выразны.

### Вогнік. 1956

Паэзію твораць усе і для ўсіх –
Пра гэта я ведаю невыпадкова.
Лячыла мяне ад сурокаў ліхіх
Бабулі Праскоўі магічнае слова.
Дакладней, яно не належала ёй,
А стала дарункам шаптухі-матулі.
Пакуль расхінаецца часу сувой,
Замова ніколі не будзе ў адгуле.

Які б ні паслаў нехта прымхам дакор,
Але несумненна, што слова нас лечыць.
Замова – народнага генія твор,
Таму і прапісана ў краі навечна…

З якой жа прычыны ў мяне летнім днём
На твар вогнік лёг саржавелай падковай?
Магчыма, меў кепскія жарты з агнём,
А мо я інфекцыю ўнёс выпадкова?

Не збавіў наш фельчар ад прыкрай бяды,
Хоць вогнік шырэў пад губой упрыкметку.
«Освобожден от занятий по поводу бороды», –
Для школы ён склаў гэтак смешна даведку.

Мяне ж то даймаў часта зменлівы жар,
То надта свярбела паскудная «гуля».
Не мог бацька бачыць мой скрыўлены твар
І ўрэшце аддаў на лячэнне бабулі…

Я помню, як печ асвятляла пакой
І ў місе з вадой вугаль гас ад суроку...
Як хворае месца рашучай рукой
Яна абвяла, зашаптала ў паўзмроку:

«Цяплішча, цяплішча,
Вазьмі сваё вагнішча,
Агонь к агню, вада к вадзе,
Хай у Сяргея вогнік прападзе!»

Па-рознаму можна той факт ацаніць,
У свеце ёсць цудаў, загадак ці мала!
Ды толькі ў мяне на шчацэ праз тры дні
Ніякага вогніка не існавала.

Як хочаш міркуй і раздумвай цяпер,
Што ўсё ж памагло:
Проста час ці замова?
Але адчуваю з маленства давер
Я самы вышэйшы да роднага слова.

### Ледзяная купель. 1959

У снежні лёд яшчэ даволі тонкі,
Ён небяспечны, хітры, як хлусня.
А дзеці разагналі санкі гонка,
Панесліся туды, дзе глыбіня.

Пад грузам іх азёрны панцыр трэснуў,
Прагнуўся да канца, і ў той жа міг
Вішчалі ў пастцы, напачатку цеснай,
Чацвёра ўшчэнт спалоханых малых.

Жанчыны спалатнелыя ў адчаі,
На беразе акамянелі ўраз.
А дзеці целяпаліся, крычалі…
Я побліз складваў дошкі ў гэты час.

Прыбег на крык, папоўз, прылёг на лёдзе.
Цягнуць нязручна. Як сябе ні лай,
А слізка, ты апоры не знаходзіш,
Яшчэ ламаецца палонкі край.
Затым схапіў руку, як па заказу,
І слізгануў наверх хлапчук-атлёт.
Калі сам шухнуў, то адчуў адразу –
З вады лягчэй выпіхваць іх на лёд.

Парэзаў акалелыя далоні,
Цягнулі боты-кірзачы на дно,
Аднак яшчэ дзяўчынак дзвюх з палону
Злаўчыўся выбавіць усё адно.

Але сястру не змог… Яна ад страху
Не да мяне, а ў дальні кут грабла,
А я без сіл… Ды ехаў з фермы шляхам
Сусед, і дапамога мне прыйшла.

Ён лёг на дошку, і па лёдзе гладкім
Я змог яе наперад заштурхаць.
Сястра ўчапілася такою хваткай,
Што доўга пальцы не маглі расцяць.

Хоць спіртам расціралі нашы целы,
Сагрэцца не ўдавалася ніяк...
Здарэнне, як імгненне, праляцела,
Але купель пакінула свой знак.

Пасля, відаць прайшло не меней года,
Адзначылі ўзрушэнне, енк і плач.
Для школы быў крутой узнагародай
Медаль, але важней – футбольны мяч.

А мне вясной і восенню – на ўколы…
Абрыдзелі ў бальніцах злыя сны.
Яны круціліся нязбытным колам:
Палонка, крыкі, холад незямны…

Прыціснуты даўно гадоў цяжарам,
Я сказам задаволюся адным:
Жыццё не толькі патыхае жарам,
Апёк яго бывае ледзяным.

### Па слядах Сяргея Ракіты. З 1963 года.

*Слухай, мой друг незнаёмы!*
*Ноч, цішыня, спакой.*
*Чуеш трывожныя бомы? –*
Едуць за мной і табой…
Сяргей Ракіта
(1909 – 1942)

Бабуля Праскоўя не толькі збаўляла ад зла,
Захоўвала безліч народных прыкметаў-сакрэтаў.
Мая ратавальніца слыннай пявунняй была,
Магчыма таму сын яе меў падобную мэту.

Ён многае змог у сваім бліскавічным жыцці,
Умеў і стараўся заўсёды з вялікай ахвотай
Не толькі араць, засяваць, даглядаць, малаціць,
Але і сталярнічаць, шыць чаравікі і боты.

Спачатку селькор, а затым журналіст і паэт,
Ён праўду любіў, жыў адкрыта і з гонкім размахам.
Ён верыў уладзе, ды здрадліва поўніўся свет
Нянавісцю класавай, подлым стукацтвам і страхам.

А ён не зважаў, не баяўся, пісаў, як заўжды,
Адстойваў уласныя погляды і справядлівасць.
Такому ніколі не ўдасца пазбегнуць бяды,
Якая сціскае жыццё навальніцай імклівай.

Ён смела казаў, што Купала – выдатны пясняр,
Публічна яго бараніў ад паклёпаў іржавых,
Што правапіс новы для мовы – знішчальны цяжар,
Ці нават: «Калгасы – гэта калонія дзяржавы».

Хоць быў маладым, але ў корань мой дзядзька глядзеў…
Стаяў за пакрыўджаных, незадаволеных, гордых
Ён смела тады, калі Сталін нахабна надзеў,
Каб людзі маўчалі, крывавых рэпрэсій наморднік.

Прыйшоў 36-ы. Пагрозу адчуў ён з вясны,
Таму арышт, трошкі прыкрыты, не стаў нечаканым.
А тут да ўсяго клопат ёсць неадкладны, зямны –
Прыстроіць вучыцца малодшага брата Івана.

Мой бацька пасля сямігодкі прыехаў у Мінск,
Якраз на Гарбарнай хлапцу надта пашанцавала.
У брата паэты сядзелі… Адкуль ні вазьмі,
Да іх завітаў «на агеньчык» сам Янка Купала…

Нясем мы нязменна трывогі і памяці куль,
Ды не перарвецца балючай гісторыі повязь.
Праз многа гадоў, як ужо быў асуджаны культ,
Я слухаў маўклівага бацькі шчымлівы аповед:

*«Аднойчы прыходзіць Сяргей дахаты і кажа:*
*«Ты, Іван, «Звязду» сённяшнюю бачыў?*
*Там пра нас, гэтак званых нацдэмаў, артыкул.*
*Дык вось, брат, трэба табе дадому ехаць.*
*Мяне хутка арыштуюць».*

А самыя першыя словы пра дзядзьку пачуў
Намнога раней ад бабулі…
Пякло сэрца ў маці...
Як слёзы, якія стаялі паўнютка ўвачча,
Так згадку ў збалелай душы было цяжка ўтрымаць ёй.

Праскоўя Ігнатаўна ў Горкім аж збілася з ног,
Яны ў непасільнай вандроўцы зрабіліся ватай,
Але канчаткова жанчыну дабіў маналог,
Які распачаў над гасцінцам турэмшчык мардаты:
*«Эй, Васек, по-моему у тебя валенки прохудились. Держи! А эти носочки мягонькие, тепленькие, Витек, тебе. А мне свитерок, гляжу, будет в пору. Ну, вот и ладненько! А это что за херня? Хлеб? А вот мы его поломаем, проверим. А то, может, ты, мамаша, туда пилочку или ножичек какой заложила. Нет? Ну, что ж. Оно, конечно, приятно от мамки пирожка отведать. Передадим, мамаша, передадим обязательно твои пироги. Правда, вид у них теперь аховый, да ему все равно будет приятно».*

Бабуля збялела, за сэрца схапілася… Як?
Няўжо, хоць здалёку, сягоння сыночка не ўбачу?
Знямела ад крыўды, адчаю, абразы, аднак
Наглядчык прадоўжыў са смехам, як з брэхам сабачым:

*«Мамаша, ты зря так волнуешься. Твой сын у нас, как на курорте! Гы-гы-гы! На лесоповале ему спецодежду выдадут. И кислорода там до хрена! Так что погостила, мамаша, а теперь езжай себе домой, в свою БССР».*

…Цяпер далей крочу ад лесапавальнай бяды,
Стаіць на дварэ лета, год ужо шэсцьдзесят трэці.
Мы з бацькам шукаем Сяргея Ракіты сляды…
У Мінску шмат хто нас увагаю шчырай прывеціў.

Успомнілі час той бясстрашна празаік Скрыган,
Паэты Грахоўскі, Шушкевіч ды Пруднікаў, Звонак,
Якія прайшлі праз круты смертаносны ўраган,
І ўскрэслі нязломныя ў шолаху кніжных старонак.

Адзін толькі тэленачальнік, ранейшы сябрук,
Пры слове «Ракіта» спалохаўся, нос сумна звесіў,
Хоць дзядзька выводзіў у людзі, карміў яго з рук…
Ён стаў заікацца…
А сам жа не зведаў рэпрэсій…

З дзевятага класа збіраю па кроплі ўвесь шлях,
Які выпаў вязню, ды часта гне роспач і стома…
І нават ля Сухабязводнага ў цёмных лясах
Магілка яго застанецца навек невядомай.

Бацькі ў памяць родзіча мне падарылі імя,
Я дзіву даюся, як шмат з ім яшчэ дасталося.
Не толькі паэзія… Вечна хацелі падмяць…
Усё паўтараецца, як пад капірку, у лёсе.

А люд наш ідзе ў «вагромністай такой грамадзе»,
Хоць гнемся, ды цяга да волі пакуль не прапала.
Жыццё паказала – пакутнік у корань глядзеў…
Кім стаў для народа цяпер слаўны Янка Купала?

З-пад венікаў «мышы» зноў шэпчуць пра страх і бяду,
Пра помсту за праўду паныла і нудна трындзяць мне…
А я не губляю сумлення, свядома іду
Па непераможных слядах свайго смелага дзядзькі.

### Ваўкі на дарозе. 1970

*«Дарагі Сяргей, каб ведаў: воўчая зграя не страшнейшая за чалавечую. Каб цябе бог мілаваў ад апошняй. В. Быкаў. Кастрычнік 1989 г.»*
Дарчы надпіс на кнізе «Воўчая зграя»

Яны чакалі за глыбокім ярам,
Дзе ўнізе булькаў гаваркі ручай…
Я ўспомніў раптам, што не ўзяў ліхтарык,
Душу да донца скалануў адчай.

Хоць у кутку лясным на волі вырас,
А там жыццё і смеласць – дружбакі,
Але адчуў сляпога лёсу вырак,
Бо ведаў, на што здатныя ваўкі.

Калі была ўжо за спіною кладка –
Два сукаватых слізкіх бервяны,
Калі назад не пабяжыш з аглядкай,
Тады якраз з'явіліся яны.

Мяне стаміла з жэрдкай пераправа,
А тут навіслі каты над душой.
Два – злева і адзін драпежнік – справа,
Так пад канвоем я далей пайшоў.

Імгненна памяць выйсце падказала –
Паліць паперу і ў іх бок кідаць.
Ваўкі агню баяцца, хоць бывала,
Што гэтым не знішчалася бяда.

У сітуацыі трагічна-сумнай
Узброеным быў добра, бо цяпер
Пасля нарады ў райана я ў сумцы
Меў шмат казённых, дзелавых папер.

Дадуць вымову…
Што ж, гары ўсё гарам,
Калі ратунку іншага няма.
Паходнямі з інструкцый, фармуляраў
Шпурляў я ў шэрых гіцляў нездарма.

Яны наводдаль дабрылі да поля,
А там адсталі ў белай цішыні,
Бо згледзелі за снегавым прыволлем
Далёкай вёскі кволыя агні…

Прайшла эпоха…
Часта ўдзячным вокам
Чапляюся за дар з былых часоў.
На кнігах, што падпісаны прарокам,
Гарыць трывога горкая радкоў.

Калодзеж праўды ў Беларусі высах…
Як Быкаў папярэджваў – лёс такі:
Дзесяткі год «сяджу» я ў «чорных спісах»,
Яны душу грызуць, нібы ваўкі.

### Даносы. 1979

*«Следчы Цэйтлін на дазнанні патрабаваў ад мяне падпісаць пратакол з паклёпамі на сябе і маіх сяброў. Я катэгарычна адказаўся. Тады ён стукнуў мяне па правай руцэ прэсам і разбіў сярэдні палец. Я нарачыта ўзмахнуў акрываўленай рукой і заліў крывёй даносы А.К. і А. Е., якія ляжалі на стале».*
З ліста да мяне вядомага паэта, вязня ГУЛАГа
Станіслава Шушкевіча

Эпохі аж тры, а жыццё ў нас – адно,
Маё з веку ў век проста праляцела.
Я зло ненавіджу, што цягне на дно,
Хоць сам не заўсёды пушысты і белы…

Але дзе б ні быў, на пасадах любых,
З пагардай глядзеў на паклёпы, даносы.
Яны вырастаюць, нібыта грыбы,
Або пустазелле, што вецер разносіць.

Іх шмат ёсць у звыклым, няпростым быцці –
Зайздроснікаў хцівых, бяздарных і шэрых.
Быў сведкам таго, як нападкі сплаціў
Такому паклёпніку мудры Машэраў.

Спачатку ў атаку даносчык паплыў
На «Нёман», дзе ўціснуў свой запіс-цягучку,
Лічыў: ганарар заплацілі малы,
А ён жа не хтосьці – «московская штучка»!

Калі ж я суцягі імпэт астудзіў,
Спакойна, культурна на месца паставіў,
То ён стаў даносіць, шалёна наўздзіў…
І стала цікава, што гэта за «танец»?

Паклёпнік бруд ліў у Маскву на мяне,
А як не дамогся, усчаў новы вэрхал,
Па «лесвіцы» поўз, выліваў злосць і гнеў,
І так ён дабраўся да самага верху:

«Рэспубліка ўпала ў нацыяналізм.
Тут не шануюць рускага чалавека.
На месніцтва курс беларусы ўзялі.
Нянавісць расце да ЦК і Генсека».

… Машэраў паклікаў, глядзіць і маўчыць,
А потым з усмешкай: «Ну, што, пацярпелы?
Даю вам дазвол службы ўсе падключыць
І высветліць: што ж зноў за тля прыляцела?»

Партрэт прахіндзея, што ўцёрся ў давер
Да значнай асобы, складалі не музы:
Ён меў аж шэсць жонак і восем кватэр
У розных сталіцах рэспублік Саюза.

Ён – шустры газетчык, шукае людзей,
Якім закарцела пісаць мемуары.
За працу бярэ ўсё, што дасць «дабрадзей»:
Кватэры, машыны, навар з ганарараў.

Пакінуў мярзотнік шмат брудных слядоў,
А ў Мінску дапяў да ваенных сакрэтаў.
Заўжды, дзе б ні быў, не вылазіць з судоў,
І судзіцца нават з судамі пры гэтым.

Машэраў дасье дачытаў і сказаў:
«Прыбраць яго ў дваццаць чатыры гадзіны!»
Наперадзе быў у суцягі – вакзал,
Каб больш не вяртацца, ён горад пакінуў.

Але ў край нязбытна вяртаецца зноў
Дыктат, у тупых паханоў пераняты…
Ды тое, што цяжка змываецца кроў,
Хай помняць лісліўцы, даносчыкі, каты.

## Калючае сонца. 1986

Чарнобыль рассек жыццё напалам,
Спакой і трывогу нічым не склеіш…
У грозны час працаваў двойчы там,
Але пасля не прасіў прывілеяў.

Ды ёсць перавага ў мяне адна,
Дакладней, відаць, заслужана права –
Балючае наша смела кранаць,
Выказваць адкрыта горкую праўду.

Тады хапала бяда за крыссё,
Дазіметр енчыў на здрадлівай хвалі.
Адзенне, абутак – дарэшты ўсё,
Калі я вярнуўся, ліквідавалі.

Чапаць не хачу чарнобыльскіх тэм,
Пакуты тых дзён душа не прытуліць.
А боль перацёк у строфы паэм,
Напісаны «Чорная быль», «Зязюля».

Але радыяцыю ўспомніць хачу,
Яна сутыкнулася з целам голым.
Калі выйшаў з прыпяцкіх хваляў, адчуў:
Нібыта іголкамі сонца калола.

Уразіла дзіўная з'ява найбольш…
Калючае сонца? Ці ж можна паверыць?
Пасля купання ў Нароўлі мой боль
Адразу ўзрос да касмічных памераў.

Няважна дзе прарастаць бядзе:
Кыштым, Чарнобыль або Фукусіма...
Малюся: няхай Астравец абыдзе
Злавесная доля ды пройдзе міма.

Мы звыклі даўно не лічыць ахвяр,
Жывем па інерцыі ў будзень і ў святы,
Пакуль не наносіць чарговы ўдар
Пракляты не раз ужо мірны атам…

Мне праўда прынесла на грэшнай зямлі
Трывогу дзён і начэй бяссонных,
Таму не хачу, каб нашчадкі жылі,
Раджалі дзяцей пад калючым сонцам.

## Танкіст з абгарэлым тварам.1989

Нялёгкая згадка душу не пакіне,
Яна незвычайная ў шэрагу знакаў:
Ссівелы нямецкі танкіст у Хатыні
Стаяў на каленях. Маліўся і плакаў…

Пабыць давялося ў Германіі часта,
Для хворых дзяцей зарабляючы лекі.
Прыйшлі ў час сустрэчаў маіх пакручастых
Былыя салдаты і нават калекі.

Для немцаў паэт – гэта многае значыць,
Са мной гаварылі адкрыта і шчыра:
«Ці можна было жыць свабодна, іначай,
Адкуль апантаны нацызм раптам вырас?»

«Калі вечна думаць пра хлеб, гэта проста,
Нібыта на службу хадзіць у кантору.
Таму Гітлер з пыхай прыстаў, як кароста,
І ў бездань галодны народ запраторыў».

Але я ў вандроўках пачуў і такое:
«Дзікунства! Натоўп і адна там вінтоўка!
Кідалі гарматнае мяса людское…
Ратунак Саветаў – герояў штампоўка…»

А потым прызнанне ўрача, што ў палоне
Мясцовых лячыў, ды ў палон іншы трапіў:
Дзяўчыну ў аптэцы на каменяломні
Сустрэў і дасюль закаханасць не страціў.

Займеў я і сябра.
У сцены стасункаў
Мы з пастарам клалі цярпліва цагліны.
Рудольф Дорман мне самым лепшым дарункам
Свой «Экуменічны тэстамент» пакінуў:

«Пахавайце мяне там,
дзе я памру:
у Расіі,
Індыі
або на нямецкай зямлі.
Святкуйце там,
дзе я жыў
з людзьмі,
няважна якой
мовы або скуры,
жывіце
і працуйце,
зноўку і заўжды
станавіцеся людзьмі…
Я імкнуўся да гэтага…»

Хоць зноў песімізм і разлады ўладараць,
Суцешуся я пакаяння адзнакай:
Танкіст з абгарэлым, знявечаным тварам
Стаяў у Хатыні. Маліўся і плакаў…

## Прысак. 2010

Мінск. Шматлюдна на плошчы. Марозна. Зіма.
Пяцьдзясят тысяч смелых стаіць на снезе,
А насупраць з дубінкамі чорны АМАП…
За каўнер холад разам з трывогай лезе.

Свой ліміт выбраў змрочны, абрыдлы рэжым,
Ды ўсё мала, бо ўтульна ля поўных місак…
Моладзь кажа: «Стаім да канца, не збяжым.
Мы за праўду змагаемся. Мы – як прысак!»

Зірк кідаюць правіцель і служкі з акон,
Хоць спалоханы гневам кожны дарэшты:
«Пяцьдзесят тысяч мала, хай выйдзе мільён,
Вось тады яшчэ можна думаць пра нешта».



Разагнаць! – атрымалі каманду «быкі»,
Пачалі «карагодзіць», біць без разбору.
«Шмон», нібыта чарговы, стаў дзікім такім,
Што сваім чарапы прабілі на сорам.

Ды не толькі ліецца тут кроў змагароў
І трашчаць галовы, ключыцы і рэбры,
Потым будуць суды, штрафы жорсткія зноў,
Каб давесці людзей да кашулі зрэбнай.

Бачна мне, што знішчальна растурзалі нас
Раз'яднанасць, прадажнасць, іншыя рысы…
Марна гіне каштоўны для нацыі час…
Толькі верыцца ўсё-такі: мы – як прысак.

Стукне ў дол капытом Каліноўскага конь,
Вецер волі пабудку і нам засвішча.
І з-пад страху зацепліцца новы агонь,
Каб да зор шугануць над сівым кастрышчам.

А пакуль што па долі блукае бяда.
Нудны рып, крочыць, быццам бы на пратэзе…
Плошча. Пуста. Людзей больш нідзе не відаць…
Як агеньчыкі, плямы крыві на снезе.

## Баршчэўнік. «Помста Сталіна». 2016

У родных абсягах даўно я не быў,
А тут цэлы тыдзень – на сцежках знаёмых.
Займеў спадарожніка ў месцах любых –
Баршчэўнік буяе ля кожнага дома.

Ён вёску дрымотай на безліч гадоў,
Так, як і «чарніла», сп'яніў і загушкаў.
Ёсць чорныя справы без брудных слядоў…
«Месть Сталина» –
Носіць баршчэўнік мянушку.

Дыктатар рабіў даручэнне якраз,
Пры ім адбылося расліны «ўзнясенне»,
Бо ўраз пражэкцёраў паслужлівы клас
Купіў за вялікія грошы насенне.

Занятых на «важнай дзяржаўнай» сяўбе
Абшуквалі доўга, усіх правяралі,
Каб тыя, крый Божа, у полі сабе
Ніводнага семка паціху не скралі.

Баршчэўнік – зялёная маса на корм!
Усюды павінны вырошчваць расліну!
Мы мясам завалім, зальем малаком
Ад Брэста да Ўладзівастока краіну!

Але, як здаралася часта, прарок
Са Сталіна быў не зусім адмысловы:
Гарчыць малако… Значыць, сілас – убок…
Не хочуць яго есці нават каровы.

Калі ж рухнуў монстрамі спечаны лад,
Які непарушным лічылі заўсёды,
То стала нам ясна: загінуў «парад»,
А Ленін і Сталін у ім – эпізоды.

Цяпер, што агульнае, – ціха грабі…
Дзе тыя былыя саўгасы, калгасы?
А што не раскралі, баршчэўнік дабіў
Сваёй незнішчальнай «зялёнаю масай».

Мой зяць гарадскі, як касой памахаў,
Апёк, хоць і быў папярэджаны, ногі.
Лячыў пухіры і з усмешкай казаў:
«Савецкія людзі – рамантыкі ў многім…»

Трыццатых гадоў развязаўся хатуль,
Вайны з «кулакамі» ідуць адгалоскі.
Займае гектар за гектарам паўсюль
Баршчэўнік як сімвал закінутай вёскі.

Калі ён учэпіцца ў дол, хоць на міг,
То потым не вырвеш, няма злыдню зводу.
Баршчэўнік нагадвае монстраў усіх,
Якія нахабна знішчаюць свабоду.

У іх мерак простых, праўдзівых няма,
Яны зноў стараюцца «сделать конфетку»…
Хлусню вырабляе дзяржава сама,
Мы ж грузнем па вушы, хоць і неўпрыкметку.

Аднак дыктатуру – піяр, ні піяр,
Спаўзае яна немінуча да згубы…
У джунглях баршчэўніку шчэрыцца твар,
Рагоча тыран на ўсе жоўтыя зубы.

## Аблога каранавіруса. 2019 – 2020

*«Это война. Действительно, война.*
*И здесь нужно принимать меры, чтобы с этой*
*бедой справиться».*
А. Авяр'янаў, пульманолаг,
доктар медыцынскіх навук, прафесар

Нібы мядзведзі, сваю бярлогу
Не пакідаем, зарос і след.
Трымае вымушана аблогу
Ад непрыяцеля цэлы свет.

Ідзе ў атаку смяротны вораг.
А дзе ён? Позіркам не відаць…
Але ў кватэры прыходзіць гора,
Усіх растурзала ўшчэнт бяда.

Адкуль жа вырас знішчальны вірус?
Чаму так косіць наўзмах людзей?
Што гэта: Волі Вышэйшай вырак
Або наступства дурных ідэй?

Блукае безліч забойчых версій…
Ім да разгадкі – яшчэ буяць!
Я – не вучоны, надзел мой – вершы,
Ды ёсць выснова адна – свая.

Гляджу навокал – у душах пуста,
Усё – фальшывасць, што ні вазьмі…
Крадзеж, карупцыя і распуста
Каронай вылезлі над людзьмі.

## Апечаныя душы. (Даты няма)

*«Хто апёкся на малацэ, той дзьме на ваду».*
Народны выраз

Неба дробненькі дожджык няспешна цярушыць,
За пякельным агнём доўга сцелецца чад…
У абпаленым краі апечаны душы,
А таму стогнуць, курчацца, але маўчаць.

Мы яшчэ можам з сябрам смяяцца і плакаць,
Ды жывем у супольнасці, як не свае:
Глупства,
Сквапнасці,
Злосці
І пыхі ў нас з гакам,
А любові пакуль што на ўсіх не стае.

Не хапае адвагі на змены: а раптам
Стане горш, у нішчымніцу зробім саскок…
Душы многіх апечаны страхам і рабствам –
Гэта самы знішчальны і моцны апёк.

Толькі не прызнае цішу свет шматгалосы,
Быў пачатак, дык прыйдзе свабоды працяг.
У вайною апечаных родных нябёсах
Навальніца ўладарна займае абсяг.

Там не гром, не маланкі, а крочаць калоны
Слаўных продкаў праз вісельні, кулі і дым,
Там на хмарах – іх Вогненныя Пісьмёны,
Запавет неўміручы нашчадкам усім.

Не зваліся героі… Ёсць шанц Беларусі
Не згубіцца ў бязмежжы людзей і падзей…
Дожджык дробненькі нудна, маркотна цярусіць,
Ды з яго прарасце сонцам велічны дзень.

## Эпілог

Я дзверы за сабой не зачыняю,
Іду ў нязнанасць з вераю святой,
Што Беларусь жыве, што не зліняе
Наш бел-чырвона-белы Сцяг над ёй.

Маю душу ніколі не дагоняць
Задушны гвалт, абразлівы дыктат.
Я чую волю ў цокаце Пагоні,
З ёй зроднены ад макаўкі да пят.

Не стоміцца яна ляцець без скону,
Капыцячы дрымотную вярсту.
Дзе ўпала пена з храпаў гордых коней,
Там кветкі прарастуць і расцвітуць.

Зноў сонца неспасціжнае паўстане,
Хоць небасхіл хіснецца нада мной…
Жыццё адказвае на ўсе пытанні.
Але якой пякельнаю цаной…

*Красавік 2020 г.*

**ЗВАНЫЙ ГОСТЬ**

# Зри в корень… генеалогического древа

*Известный белорусский специалист по генеалогии **Витольд ХАНЕЦКИЙ** более двух десятилетий занимается генеалогическими исследованиями по частным заказам. Но за биографией семьи стоит биография эпохи, а проще говоря, наша история. И она до сих пор полна тайн. Которые открываются время от времени настоящим исследователям: о сестрах Плятер – революционерках-фальшивомонетчицах XIX века, о точном месте рождения известного художника Бельницкого-Бирули (оказывается, современный музей его имени создан совсем не в той области, откуда родом этот живописец). Витольд Ханецкий собирается сесть за книгу – сенсации, которые пришли ему в руки, должны стать всеобщим достоянием. Потому что интересна только правда – какая бы неудобная она ни была.*



**– Скажите, люди часто просят вас найти документы, подтверждающие их шляхетство?**

– Сейчас уже стало спокойнее, а раньше, конечно, был ажиотаж – все кинулись изучать свое семейное прошлое. Но, бывало, если узнавали, что в роду только крестьяне, теряли к генеалогии всякий интерес.

**– А случалось, что просили приписать себе голубую кровь?**

– Просили…

**– Хм, видимо, кому-то приятно взгромоздиться на котурны, опираясь на предков.**

– Конечно, я отказывался от такой работы, мне она просто не интересна! Но самозванцев хватает. Иногда, возможно, люди искренне заблуждаются. Вот, например, Малевичи – их в Беларуси было три самостоятельных рода. И ни один из них не пересекается с украинским родом Малевичей, к которому принадлежит всемирно известный художник Казимир Малевич. То есть они друг другу не родня. Украинские Малевичи первоначально были боярами Овручского замка, их родословная известна, опубликованы генеалогические документы, метрики, сведения об утверждении в российском дворянстве по Волынской губернии. Тем не менее у нас в Минске есть человек, который уже много лет публично настаивает на своем родстве с Казимиром Малевичем. А где документы? Есть лишь декларируемое портретное сходство, и люди наивно верят словам…

**– Я знаю, что вы один из лучших специалистов в отечественной генеалогии. Сколько лет требуется, чтобы стать своим в таком тонком деле?**

– Минимум пять. Притом надо ходить в архивы ежедневно, как на занятия. Научиться читать старинные документы довольно трудно. На русском языке написаны только документы второй половины XIX века, а до того времени писали на латыни и польском, причем на польском архаичном. Много текстов по-польски вперемешку с латынью, такой вот местный официоз. Ну, а если надо копать дальше, в XVII век, то читать приходится на старобелорусском. Там докопаться до сути еще сложнее: документ на десяти листах, а фактической информации – на одну страничку.

**– Скажите, а в каком состоянии находятся наши белорусские архивы? Много нареканий?**

– Конечно, по сравнению с литовскими, польскими и даже российскими белорусские архивы менее прогрессивны. Это не их вина. Чтобы все изменить, надо волевое решение государства и средства. Я очень люблю наш Исторический архив, но у него есть чисто технические проблемы: например, элементарно нет денег на то, чтобы разместить в интернете, в онлайн-доступе, свои описи и фонды. А ведь многие из них давно уже оцифрованы! В архивах соседних стран очень много исторических документов в открытом доступе. У нас тоже чиновники на каждом углу говорят, что архивы – наше национальное достояние. Так дайте людям свободно пользоваться своим достоянием!

**– А в Центральный архив КГБ попасть сложно?**

– Это вообще выходит за рамки разумного. Если прямой родственник не был репрессирован, то вам попасть туда вообще не светит. Исключено! У меня репрессировано несколько двоюродных прадедов. Но у них не осталось прямых потомков, а мне их документы не дадут. И даже Национальный архив Республики Беларусь, располагая электронной базой необоснованно репрессированных в 1930-е, ограничил к ней доступ исследователей без предоставления доказательств родства. И это на фоне того, что все наши соседи снимают такие ограничения! Еще лет пять назад я по запросу в архив свободно получал данные из этой базы. А сейчас там мотивируют ограничение тем, что база предназначена для «внутреннего пользования».

Многие наши историки давно бьются над тем, чтобы этот, по сути, ведомственный архив передали в распоряжение национального. Ведь все по закону: прошли 75 лет, в течение которых государством охраняется тайна личной жизни, и, значит, с документами до 1945 года имеет право ознакомиться любой желающий. Но эту ведомственную стену пока не пробить. И все ограничения – якобы из лучших побуждений: чтобы неприятной правдой не оскорбить память известных людей XX века. Но многое уже и так известно.

**– А вот продают ли документы из наших архивов «из-под полы»? Существует ли архивная коррупция?**

– В Беларуси? Нет, слава Богу. А я работаю в этой области больше 25 лет. Хотя слышал о таких скандалах в России... Другое дело, что иногда ценные документы всплывают на так называемых черных рынках. Но это старые документы из личных архивов или те, которые никогда не были в архивном обороте. Многое сохранилось на руках у людей еще с того времени, когда закрывались церкви, а церковные книги выбрасывались или прятались в тайниках до лучших времен.

**– За какие годы сложнее всего найти информацию в архивах?**

– Смотря по какому региону. В Минском хуже всего сохранились материалы конца XIX – начала XX века: война, пожары… А, например, фонды Могилевского дворянского собрания, где хранились документы, подтверждающие родословную многих семей, государство уничтожило по собственной инициативе. Дело в том, что в 1930-е годы в стране был большой дефицит бумаги, и их отправили в Добруш на переработку. А документы те были бесценные…

**– Как вы думаете, сейчас по идеологическим причинам у нас уничтожаются какие-то документы?**

– Нет.

**– А если придет приказ?**

– Да вы что, архивисты костьми лягут! В Национальном историческом архиве у нас работают такие идейные люди, настоящие профессионалы. Другое дело, что старые документы просто гниют, их уничтожает время, это, к сожалению, естественный процесс. А на восстановление и реставрацию опять же нужны деньги, и немалые. Страшно сказать, но в наших архивах всем документам просто нет места, Исторический архив уже давно нуждается в новом современном здании. Там же хранится матрица, наша генетическая память, больше миллиона единиц документов.

**– Правда ли, что вы нашли документы, подтверждающие, что все младшие сестры нашей знаменитой графини-революционерки Эмилии Плятер были замешаны в громком уголовном деле о фальшивых купюрах в конце XIX века?**

– Еще и брат их был в компании. Я наткнулся на эти документы совершенно случайно. Да, сначала мне тоже показалось, что женщины решили заработать себе на бриллианты. Но оказалось, что дело гораздо сложнее: фальшивомонетчики считали свою деятельность продолжением политической борьбы за независимость. Вброс фальшивых купюр в экономику России начался после подавления восстания 1863–1864 годов и продолжался до 1890-х. Надо признать, что это была величайшая экономическая диверсия. И в то же время она являлась одним из способов самоотверженной политической борьбы эмигрантских кругов политических повстанцев.

**– Как известно, центром диверсии были Париж и Лондон. Наши самоотверженные женщины были, скорее всего, винтиками в мировой афере. Они были наказаны?**

– Уголовного наказания сестры Плятер избежали. На двух из них, проживавших на территории Российской империи, не смогли собрать доказательств, третья жила за границей – во всем этом процессе была достаточно серьезная система конспирации. Но деньги действительно печатались в Лондоне. Впрочем, не хочу пока раскрывать детали.

**– Будете писать книгу?**

– Да! И киносериала этот сюжет тоже достоин: крутой политический детектив, который заслуживает внимания потомков. Дело в том, что идейным вдохновителем фальшивомонетчиков был ближайший соратник Калиновского, бывший офицер Владислав Малаховский. Он, белорусский шляхтич из-под Пружан, принадлежал к левому, радикальному, крылу «красных» повстанцев. После разгрома восстания ему удалось бежать в Европу, там он жил под именем Леон Варнерке. Стал фотографом, а потом вообще прославился, так как изобрел прототип современного «кодака». Но его настоящая личность раскрылась только несколько лет назад.

**– Как все сложно и неоднозначно в нашей истории!..**

– Тогда вот вам на закуску новые данные о знаменитом белорусском живописце Витольде Белыницком-Бируле. На самом деле он не имеет никакого отношения к Белыничам и деревне Крынки Могилевской области. В то время, когда Витольд Каэтанович родился, на том месте и деревни не было, а всего лишь маленькая переправа у реки. Будущий художник появился на свет в Крынках под Витебском, и крещен он был в Бабиновичском костеле – есть документы! Конечно, хорошо, что создан музей его имени, пусть и в Могилеве. Но на самом деле родина живописца – витебская земля.

**– Ну что здесь скажешь? Зри в корень! А то ошибок не избежать.**

**Елена МОЛОЧКО.**

ДЫЯЛОГІ





## Міхась СКОБЛА – Аляксандр КАЦІКАЎ

# «Агіткі не пішу, кампрамісы не для мяне!»

*Яго творчая дарога пачыналася пад шчаслівай зоркай – у легендарных «Песнярах», куды трапіў па запрашэнні самога Уладзіміра Мулявіна. А прадаўжаецца ў «Беларускіх песнярах», для якіх ён піша песні, робіць аранжыроўкі, у складзе якіх выходзіць на сцэну. Гэты калектыў, відаць, і варта лічыць найбольш годным пераемнікам тых непаўторных «Песняроў», якія з'явіліся на свет 50 гадоў таму.*

*Пра «пясняроўскае» мінулае і сённяшняе мы пагутарылі з кампазітарам і спеваком Аляксандрам КАЦІКАВЫМ.*

**– Аляксандр, дзякуй вам за тое, што пішаце песні на вершы сапраўдных паэтаў. На жаль, для большасці сучасных кампазітараў класіка гучыць неактуальна. Мяркуючы па вашых новых песнях на вершы Максіма Багдановіча і Адама Міцкевіча, вы так не лічыце.**

– Ёсць рэчы, якія не старэюць, – у музыцы, жывапісе, літаратуры. Як сёння могуць быць неактуальнымі творы Міцкевіча, яго сябра Пушкіна ці нашых Купалы і Багдановіча? А байкі Крылова і Кандрата Крапівы хіба згубілі свой сэнс? Згадайма: «другі баран ні «бэ», ні «мя», а любіць гучнае імя…». Мэта любога мастацтва – раскрыць і выявіць пачуцці, а яны і сто, і пяцьсот, і тысячу гадоў застаюцца аднолькавымі. Іншая справа, што гэтыя пачуцці трэба данесці да гледача сучаснай моваю.

**– А як вы ставіцеся да той песеннай прадукцыі, якая гучыць штодня ў радыё- і тэлеэфіры?**

– Часта з'яўляюцца песенькі з пашлаватымі тэкстамі, з няправільным націскам у словах, а то і з непрыхаванымі матам. Тая ж сітуацыя ў тэатры і кіно. Мае песні, напэўна, адрозніваюцца на агульным фоне.

**– Вы напісалі цэлы песенны альбом «Жывем!» на вершы Ларысы Геніюш. Ва ўсе часы яна была апальнай, і сёння, дарэчы, таксама. Як вы прыйшлі да яе творчасці?**

– Месца Ларысы Геніюш у гісторыі Беларусі ўжо вызначана. Сэнс напісаных ёю вершаў не падлягае сумненню, настолькі яны правільныя і патрыятычныя. Менавіта таму мне было лёгка пісаць на іх музыку. Помню, з якім натхненнем гэтыя песні выконвалі Уладзімір Георгіевіч Мулявін, Валерый Дайнека, Ігар Пеня і Алег Аверын. Я не літаратуразнаўца, але стаўлю творчасць Геніюш поруч з творчасцю Купалы, Коласа і Багдановіча. А яе кніга «Ад родных ніў» трапіла мне ў рукі чыста выпадкова. Хоць нездарма кажуць, што нічога выпадковага ў свеце не бывае.

**– Нядаўна Анатоль Ярмоленка запісаў песню пра тое, як ён стаміўся хадзіць па струнцы і выконваць чыесьці капрызы. А вы дзеля нейкага кампрамісу гатовы, вобразна кажучы, наступіць на горла ўласнай песні? Скажам, напісаць агітку накшталт «Товарищ президент», як ваш калега Эдуард Ханок?**

– Не люблю абмяркоўваць учынкі калег, але ведаю, што многія творцы «упрыгожылі» сваю творчую біяграфію падобнымі творамі. Наколькі яны ў гэтым шчырыя – меркаваць ім самім.



Панегірыкаў палітыкам я не пісаў. Хіба нядаўна з паэтам Ігарам Піскуном мы напісалі песню, прысвечаную зоркам мінскага «Дынама». Таго самага, што ў 1982 годзе стала чэмпіёнам СССР. Пра тую каманду, як і пра мулявінскіх «Песняроў», сталі патроху забываць, так быць не павінна. А два гады таму я выйграў творчы конкурс, напісаўшы песню пра «БЕЛАЗ». І зрабіў гэта шчыра, сыходзячы з убачанага на ўласныя вочы. Вось і ўсе мае «агіткі». Не, кампрамісы не для мяне!

**– Бас-гітара, баян, саксафон, флейта – усе гэтыя інструменты вам падуладныя. А калі не на сцэне, а для сябе – што часцей бераце ў рукі?**

– Баян я бяру толькі тады, калі вып'ю чарку (*смяецца*). На жаль, сёння людзі перасталі спяваць у застоллі. Так што гэта адбываецца ўсё радзей. Часцей у маіх руках бас-гітара – іх у мяне аж чатыры штукі.

**– Пра вас гавораць як пра таленавітага імправізатара. Разумею, як можна імправізаваць у інструментальнай музыцы, у тым жа джазе, а як гэта можна рабіць, выконваючы песню «Да рукі рука»?**

– Мастацтвам імправізацыі валодае большасць музыкантаў, гэта нескладана. Мне і ў жыцці падабаецца імправізаваць. Для музычнай імправізацыі неабходны немалыя веды. Тады гэта атрымаецца эфектна і запомніцца гледачам. У гэтым сэнсе магу назваць выдатным імправізатарам Уладзіслава Місевіча. У яго проста энцыклапедычныя музычныя веды, з ім заўсёды цікава. Што тычыцца песні Алега Аверына «Да рукі рука», то яе запіс у Галандыі ў 1994 годзе быў у значнай ступені імправізацыйным. Відаць, таму песня і атрымалася такой прыгожай.

**– У адным з інтэрв'ю вы прызналіся, што хацелі б жыць на хутары, але не патлумачылі чаму. Я на хутары вырас, таму мне карціць даведацца, чым вам блізкая псіхалогія хутараніца?**

– Я і сёння не супраць пажыць на хутары, але з жонкай мы тут не знаходзім паразумення. Хутар – гэта адсутнасць мітусні, ёсць магчымасць засяродзіцца. Сённяшняя сітуацыя з каранавірусам прымусіла людзей задумацца аб перавагах жыцця ў вёсцы. Я з маленства прывучаны да вясковай працы, магу рабіць практычна ўсё. Хіба што тэлевізар не парамантую, але ён на хутары і не патрэбны.

**– То ці набылі сабе хутар? Пакуль яшчэ іх можна купіць дзесьці ў глыбінцы.**

– Не, не набыў, хоць некаторыя мае знаёмцы так зрабілі. Раўнацэнным заменай хутару стала для мяне лецішча, якое я сам будаваў, праўда, з удзелам майстроў (*смяецца*).

**– Мяркуючы па вашых інтэрв'ю, вы не вельмі любіце гаварыць пра сваю сям'ю. Можа, для «Народнай Волі» зробіце выключэнне? Хто вашы бацькі, адкуль яны? Ці вялікая ў вас сям'я? Хто чакае вас з гастроляў дома?**

– Мая сям'я – мая крэпасць. Мне блізкі сэнс гэтага выказвання. Сам я з Астраўца, хоць нарадзіўся непадалёк ад Ліды. Там пасля нямецкага канцлагера апынуўся мой бацька са сваёй сям'ёй, там жа ён сустрэў маю будучую маму, якая прыехала па размеркаванні ў вясковую школу. Бацька – міліцыянер, маці – настаўніца.

**– А які прадмет яна выкладала?**

– Беларускую мову і літаратуру. Яе вучні вельмі паважалі і любілі. Нейк у Маскве я сустрэў былога мамінага вучня, які стаў паспяховым бізнесменам. Ён прызнаўся: «Калі б была такая магчымасць, я выбачыўся б перад тваёй маці за тое, што ў школе быў хуліганам». Калі мама памерла, вучні самастойна сышлі з урокаў і сталі жывым ланцугом уздоўж дарогі, каб правесці яе ў апошні шлях. Бацькі зрабілі для мяне ўсё, каб, з'ехаўшы з дому ў 17 гадоў, я не згубіўся ў гэтым жыцці. Бог падараваў мне жонку Лену, з якой мы разам ужо 40 гадоў, маем двух выдатных сыноў – гэта наша гордасць. Атрымаўшы добрую адукацыю, яны ладзяць сваё жыццё самастойна. Дома з гастроляў мяне чакае жонка і два сабакі – пудзель Сонік і ёрк Рыкі.

**– Вы паспелі папрацаваць у «Песнярах» разам з Уладзімірам Мулявіным. Як ён ставіўся да маладых?**

– З Мулявіным я працаваў шэсць гадоў. Паверце, гэта нямала. З гледзішча прадукцыйнасці гэта быў адзін з самых цікавых перыядаў у маім жыцці. Я цягнуўся за Алегам Моўчанам і Алегам Аверыным, але іх дагнаць было немагчыма, настолькі ўпэўнена яны рухаліся наперад! А з Мулявіным у той перыяд працаваць было адно задавальненне. У творчых пытаннях яго думка была вырашальнай, хоць на сцэне ён паводзіў сябе нароўні з усімі. Пры ўсёй сваёй значнасці мог без усякіх фанабэрый папрасіць прабачэння, калі не меў рацыі (так гэта аднойчы здарылася ў адносінах да мяне), мог зрабіць нечаканы падарунак. Уладзімір Георгіевіч ведаў, на якой мове трэба размаўляць з маладымі, і заўсёды мог падказаць, у які бок рухацца.

**– Пры вас фактычна калектыў і распаўся. Хто ў гэтым быў найперш зацікаўлены?**

– Сёння гэта ўжо не сакрэт – да развалу «Песняроў» вельмі моцна спрычынілася жонка Мулявіна Святлана Пенкіна. Яе сквапнасць і легендарны калектыў развалілі, а затым згубіла і самога Мулявіна. Без яе ўсё магло быць інакш... Пра ролю Пенкінай, дарэчы, падрабязна напісаў у сваёй кнізе аб «Песнярах» Уладзіслаў Місевіч.

**– Ён у інтэрв'ю «Народнай Волі» ўспамінаў, як вы перад стварэннем «Беларускіх песняроў» удвух ездзілі ў Маскву на разведку. А што вы там разведвалі?**

– Мы ўжо выступалі як «Беларускія песняры», калі мне і Місевічу калегі даручылі ехаць у Маскву – шукаць «выратавальны круг» для ансамбля. Мы ездзілі туды, як на працу, вярталіся на выхадныя ў Мінск. Гэта доўжылася амаль чатыры месяцы. За гэты час мы абышлі безліч кабінетаў чыноўнікаў ад культуры і тэлебачання. У выніку на маскоўскіх радыёстанцыях і тэлеканалах сталі гучаць нашы песні. Мы ўдзельнічалі ў розных шоу. Нейк у жывым эфіры мы з Місевічам нават вялі рэпартаж з казіно! Нам выдалі бясплатна фішку на 1000 долараў, і мы яе з трэскам прайгралі... Але галоўнага дасягнулі – знайшлі сяброў, якія дапамаглі аплаціць наш сольнік у канцэртнай зале «Расія» з запісам на ТБ. Пасля таго эпахальнага для нас канцэрта гледачы нам паверылі, і мы акрыялі целам і духам.

**– Дзе апошнім часам (маю на ўвазе час да пандэміі) выступалі «Беларускія песняры»?**

– Пераважна ў Расіі. Напрыканцы мінулага года мы давалі канцэрты ў Самары і Тальяці, на пачатку гэтага – у Маскве і Падмаскоўі. На жаль, з 10 сакавіка ўсе канцэрты былі адменены ці перанесены на пазнейшы час.

**– Чаго сёння больш у рэпертуары «Беларускіх песняроў» – старых шэдэўраў ці новых песень?**

– Без старых песняў у канцэрце, ведама ж, не абысціся, яны складаюць пераважную палову нашага рэпертуару. Другая палова – песні, напісаныя за апошнія 20 гадоў, пераважна Алегам Аверыным.

**– Як прызнаваўся Анатоль Кашапараў, яму ў Расіі з залы адразу крычаць: «Валагду» давай!». А ў вас што просяць?**

– «Белавежскую пушчу», «Бялявую, чарнявую»… Калі гучыць «Молодость моя, Белоруссия», гледачы, як правіла, узнімаюцца з крэслаў і стоячы спяваюць разам з намі, такім чынам выказваючы сваю павагу да братоў-беларусаў. Такая вось народная дыпламатыя.

**– Той жа Місевіч прызнаваўся, што ў «Беларускіх песнярах» няма лідара. Маўляў, лідарства галіновае: у вакале – Дайнека, у музыцы – і Дайнека, і Аверын, і Максім Пугачоў, і Аляксандр Кацікаў. Вы сябе лідарам адчуваеце?**

– Не адчуваю. Лідарам у «Песнярах» заўсёды быў Мулявін. У нас яўнага лідара няма, хоць на сцэне вылучаюцца як салісты Дайнека, Пеня і Аверын. Фланг надзейна «прыкрывае» харызматычны Місевіч. Дарэчы, нядаўна ён адзначыў свой 75-гадовы юбілей. Штосьці я не заўважыў, каб яго публічна павіншавалі ад імя дзяржавы. А чалавек столькі зрабіў для прапаганды беларускай песні!

**– А як вы ставіцеся да дзяржаўных «Песняроў»? Здаецца, яны проста паразітуюць на мулявінскім рэпертуары…**

– Гэта дзяржаўны калектыў, а дзяржпрадпрыемствы ў сучасных умовах далёка не заўсёды з'яўляюцца эфектыўнымі. Хлопцы маюць ад дзяржавы такія магчымасці, у тым ліку тэхнічныя, а адчуваюць сябе так бездапаможна... Мулявінскія «Песняры» заўсёды былі творчай лабараторыяй, пры іх дзейнічала мастацкая студыя, дзе нараджаліся і развіваліся маладыя таленты. Тую студыю сярод іншых наведваў, напрыклад, Зміцер Вайцюшкевіч.

**– Нейк я глядзеў перадачу з «Беларускімі песнярамі» на канале «Настальгія». Дык вядоўца прызнаўся, што калісьці ўвесь Савецкі Саюз на песнях «Песняроў» вучыў беларускую мову. А сёння вам беларускай мовы ў Беларусі хапае?**

– Вы звярнулі ўвагу на тое, як хутка дзеці вучаць замежныя мовы пры дапамозе песняў і гульняў? Тое самае адбывалася і з прыхільнікамі «Песняроў». Ім падабаліся прыгожыя мелодыі, мілагучная мова, якая запаміналася сама па сабе. Неабходна ўлічыць і тое, што ў часы БССР вывучэнне беларускай мовы ў тых жа школах было больш глыбокім. А сёння я жыву ў соцыуме, дзе пераважная большасць размаўляе па-руску. Таму беларускай мовы мне, ведома ж, не хапае.

**– Дзе вы пераседжваеце пандэмію?**

– Мы з жонкай цалкам пераехалі на лецішча. Пакуль чакаем «добрага надвор'я», я без справы не сяджу. Чытаю, пішу музыку. Па прыкладзе Улада Місевіча штораніцы абліваюся халоднай вадой. Загартоўваюся, каб у будучыні не баяцца ніякіх вірусаў.

**– Цяпер для артыстаў настаі ці не найгоршыя часы. Далёка не ўсе маюць запасы, каб без асаблівых праблем пераежыць крызіс. А як пачуваеце сябе вы, ці ёсць у вас «падушка бяспекі»?**

– Адсутнасць канцэртаў прымусіла скарэктаваць расходы сямейнага бюджэту. Запас, вядома ж, быў, што за гаспадар без запасу? Праўда, нам яшчэ і сыны дапамагаюць. Мы з жонкай спачатку адмаўляемся – дзеля прыліку, але ўрэшце дапамогу прымаем з удзячнасцю. Два з паловай месяцы побыту на лецішчы – не солад, ведома ж. Але я быў і застаюся аптымістам. І чытачам «Народнай Волі» таго ж жадаю. Жыццё ў любым узросце пры любой раскладцы – цудоўнае!

АРТ-ЖЫЦЦЁ

## Беларускае кіно ў Кракаве

У апошні дзень вясны, 31 мая, адкрыўся адзін з найстарэйшых фестываляў у Еўропе – Кракаўскі міжнародны кінафестываль. Польскі кінаагляд спецыялізуецца на паказе дакументальных, анімацыйных і кароткаметражных фільмаў. У гэтым годзе ў конкурснай праграме фестывалю ўдзельнічаюць работы карыфеяў сучаснай беларускай дакументалістыкі: «Эпітафія» Віктара Аслюка і «Мне трэба поціскаў» Андрэя Куцілы. Фільм «Межы» маладога рэжысёра Юліі Шатун будзе паказаны ў рамках кінарынку.

**Вікторыя ДРОЗД.**

УЛЫБНИТЕСЬ...

***

– Иван, ты часто смотришь по телевизору прогнозы погоды?

– Почти всегда, кроме дней, когда их объявляет Дмитрий Рябов.

– Почему?

– Знаешь, сначала он делает минутное вступление, потом он уступает место рекламам (а это 8–10 штук без перерыва), потом рассказывает о погоде до Всемирного потопа, потом – после потопа, и только после всего этого мы узнаем погоду на завтра из областных сводок.

***

Старушка за 80 лет покупает в аптеке очень много разных лекарств. Мужчина, стоящий за ней, спрашивает:

– Зачем вам столько препаратов, вы же их не успеете использовать?

– Как зачем? Я буду усиленно поддерживать здоровье, чтобы дожить до той поры, когда мой внук 2010 года рождения станет взрослым и будет получать в месяц 500 долларов зарплаты.

***

– Слушай, Иван, а что будет после того, как победим коронавирус?

– Что будет, что будет… Начальники, как всегда, наденут короны, а простой люд, как всегда, будет жрать макароны.

***

– Иван, что такое ротационная ситуация?

– Точно не знаю, но – по аналогии с революционной – это такая ситуация, когда низам не разрешают работать после окончания контракта, а верхи не уходят с насиженных теплых мест годами, а то и десятилетиями.

***

– Иван, ты знаешь, кто такой Мугабе?

– Нет, а кто это?

– Это президент африканской страны Зимбабве, который умер в 95 лет, а перед этим правил страной 37 лет. Вот это патриот!

– Подумаешь, патриот! Пусть не задается, мы его перещеголяем.

***

– Иван, недавно Лукашенко заявил, что эти президентские выборы будут честными. Скажи, пожалуйста, а что, до этого честных выборов у нас не было?

**Иван СИДОРЕВИЧ.**

*г.Кобрин.*

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Летящей походкой: от каких привычек стоит избавиться ради красоты ног



### Время за компьютером

Если долго сидеть без движения, кровообращение замедляется, а это не слишком полезно. Поэтому если на работе вам приходится много времени проводить за компьютером, каждый час делайте пятиминутные перерывы, чтобы пройтись по коридору и размяться.

### Частые кофебрейки

Кофе способен снижать тонус сосудистых стенок, из-за этого может страдать эластичность вен. Тем, у кого есть склонность к варикозу, стоит ограничиться одной чашкой кофе в день, причем после кофе стоит выпивать стакан воды.

### Нервы и недосып

Одна из распространенных причин варикоза – нарушение работы нервных окончаний в стенках вен на ногах. И стресс здесь может выступить провоцирующим фактором. Поэтому старайтесь сознательно работать над своими эмоциями, например, осваивайте дыхательные техники, медитацию, йогу или цигун.

### Вредная пища

Жирная пища влияет на уровень холестерина в организме и на густоту крови. Густая кровь с трудом продвигается по венам, а значит, нагрузка на них сильно возрастает. Даже если у вас шикарный метаболизм и вы не набираете вес, старайтесь питаться сбалансированно. Каждый день ешьте крупы, злаки, овощи и фрукты, нежирное мясо или рыбу. А любимый бургер или пирожные с кремом – не чаще раза в неделю.

ВІНШУЕМ!



## Зямля і космас Васіля Зуёнка

3 чэрвеня споўніцца 85 гадоў Васілю Зуёнку. Паэту надзвычай зямному і адначасова касмічнаму – нездарма яго вершы гучалі з зямной арбіты ў рэпартажы Уладзіміра Кавалёнка, які ў свой зорны час быў рады атрымаць з Зямлі томік вершаў "Нача" ад паэта-земляка. Прапісаліся ў вечнасці і зуёнкаўскія радкі пра яблык, які "ўпаў дасвеццем ля Халопеніч на Беларусі" і прымусіў здрыгануцца ўвесь зямны шар. А яшчэ ў паэта ёсць геніяльная балада пра былога салдата, што ў лазні на палку забываецца на сваю страчаную нагу і венікам "сячэ то па левай, то па…". Спатыкнуўшыся ўвагай на тым абарваным радку, запомніш яго надоўга. Ніколі не цураўся В.Зуёнак і саркастычнай публіцыстыкі, помніцца, як на інтэграцыйныя памкненні Крамля (якія і па сёння працягваюцца) адгукнуўся проста афарыстычна: "Без такой Расіі – сэрцам не абняць – мы куды б хадзілі ссылку адбываць?.." Напярэдадні юбілейнай даты хачу пажадаць выдатнаму паэту новых гэткіх жа запамінальных твораў!

**Міхась ПАДГОРНЫ, Мінск.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №93/106 ад 30.04.2004. 220013, Мінск, пр-т Незалежнасці, 79/1. Падпісана ў друк 01.06.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 015 экз. Заказ № 1963.